# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Чацвер, 22 снежня 1994 года | № 137 (10837) | Цана 80 руб.





■ У люстэрку статыстыкі

## ...ДЫ ГРАХІ НЕ ПУСКАЮЦЬ

Заканчваецца год, аднак многія жыхары Міншчыны не дачакаюцца жылля, якое разлічвалі атрымаць. Скажыце, як можна за месяц закончыць усе работы, калі тэхнічная гатоўнасць 106-кватэрнага дома для барысаўчан на пачатак снежня раўнялася 40 працэнтам? І вінаваціць тут падрадчыка — калектыў Барысаўскага ДБК няма за што. Рады ён папрацаваць па-ўдарнаму, толькі, як гаворыцца, грахі ў рай не пускаюць: фінансаванне дома наогул спынілася, таму і прыпынілі на ім усе работы яшчэ ў лістападзе.

З-за адсутнасці грашовых сродкаў зацягнулася будаўніцтва 72-кватэрнага дома ў Маладзечне, хаця яно вядзецца з лістапада 1991 года. Па гэтай жа прычыне. Не здадуць у эксплуатацыю 5 аднакватэрных дамоў у саўгасе "Бальшавік" і 2 чатырохкватэрныя — у саўгасе "Азёрны" Мінскага раёна, 14 аднакватэрных — у калгасе "Шацк" Пухавіцкага, 5 аднакватэрных — у калгасе "Шыпяны" Смалявіцкага, 4 — у калгасе "Прагрэс" Клецкага.

У цэлым жа па вобласці было ўведзена ў эксплуатацыю за адзінаццаць месяцаў 2.779 кватэр — 30 працэнтаў гадавога плана.

За чарнобыльскія сродкі сёлета патрэбна пабудаваць 352 кватэры. Здалі ж за студзень-лістапад толькі 167.

Не лепшае становішча і на іншых аб"ектах сацыяльнай сферы. З жалем даводзіцца канстатаваць, што падрадчыкі пабудавалі за гэты перыяд агульнаадукацыйных школ на 1.940 вучнёўскіх месц пры гадавым заданні 3.453 (56 працэнтаў плана), дашкольных установаў — на 280 месц з 1.975 запланаваных (14 працэнтаў гадавой праграмы). Здалі ж у эксплуатацыю амбулаторна-паліклінічных установаў толькі на 40 наведванняў, ці 7 працэнтаў гадавога плана.

Вось з якімі невясёлымі вынікамі па будаўніцтву завяршаем сёлетні год.

*Фаіна ЭЛЕНТУХ, супрацоўнік аблупраўлення статыстыкі.*



*Дваццаць сем гадоў працуе вадзіцелем у Валожынскім аўтапарку №17 Міхаіл Уладзіміравіч **Цаюн.** Зараз яго "МАЗ" з прычэпам можна ўбачыць на ўчастках аднаўлення дарожнага пакрыцця раёна. Гравій, асфальт, пясок ён заўсёды на будоўлю дастаўляе своечасова.*

*Фота Анатоля ДРАЗДОВА.*

■ Парламент: дзень за днём

## РАЗМІНКА ПЕРАД ВЫБАРАМІ?

На працягу двух дзён асноўнымі праблемамі парламента сталі пытанні ролі грошай у палітыцы і ролі палітыкаў у фінансавай сістэме. У якасці "размінкі" па гэтаму пытанню можна разглядаць вячэрняе пасяджэнне 19 снежня, калі сур'ёзнай крытыцы быў падвергнуты канцэптуальны падыход да падатковай палітыкі. На думку большасці прамоўцаў, улады чарговы раз вырашылі ўскласці ўвесь цяжар клопатаў аб дзяржаўнай казне на падаткаплацельшчыкаў.

20 снежня ў парламенце прагучаў даклад дэпутата С.Антончыка аб фактах карупцыі ў адміністрацыі прэзідэнта. На яго думку, Беларуссю кіруе некалькі мафіёзных кланаў: аграрны, прамысловы, чарнобыльскі, гандлёва-знешнеэканамічны.

У якасці аргумента С.Антончык прывёў наступныя факты. У 1993 годзе 60 працэнтаў крэдытнай эмісіі праходзіла праз "Белаграпрамбанк", старшынёй праўлення якога быў цяперашні прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір. Сяргей Антончык лічыць, што цэны "раскручваліся" па наступнай схеме: парламенцкая Камісія па аграрных пытаннях, харчаванню і сацыяльнаму развіццю вёскі, якой кіраваў Уладзімір Гаркун — цяперашні віцэ-прэм'ер, выбівала крэдыты быццам пад патрэбы сялян; урад ішоў насустрач; Нацыянальны банк "друкаваў грошы" — гэтыя грошы ішлі ў "Белаграпрамбанк".

Многа непрыемнага прыйшлося пачуць і кіраўніку спраў прэзідэнта Івану Ціцянкову. Былі прыведзены прыклады з яго камерцыйнага мінулага ў фондзе "Спадчына Чарнобыля", дзе, лічыць С.Антончык, на дабрачынныя мэты заставаліся, што называецца, капейкі. І гэта пры тым, што фонд займаўся вельмі грашовым таварам — нафтай, мазутам, бензінам.

У дакладзе практычна ўсе сястрыцы атрымалі па завушніцы. Начальніку службы кантролю прэзідэнцкай адміністрацыі Васілю Даўгалёву было пастаўлена ў віну парушэнне жыллёвага заканадаўства, міністр абароны Анатоль Кастэнка выслухаў нямала абвінавачванняў у злоўжыванні службовым становішчам і няправільным продажы ваеннай маёмасці. Не пакінуў без увагі С.Антончык і датэрміновае прысваенне воінскага звання палкоўніка дзяржсакратару Савета бяспекі Віктару Шэйману, які да гэтага меў званне маёра. Дасталося таксама Леаніду Сініцыну, Віктару Кучынскаму, некалькім работнікам прэзідэнцкай службы кантролю.

Па-рознаму ацаніў дэпутацкі корпус выступленне Сяргея Антончыка. Адны лічылі, што ў даным выпадку ёсць два адзіна правільныя вывады: альбо прыцягнуць дакладчыка да адказнасці за паклёп, альбо неадкладна пайсці ў адстаўку прэм'ер-міністру Чыгіру. Некаторыя ўбачылі ў выступленні Антончыка спробу стварыць "трамплін" перад маючымі адбыцца выбарамі ў парламент.

Кіраўнік Кабінета Міністраў Міхаіл Чыгір, які выступіў, расказаў аб мерах, што прымае ўрад па выхаду з крызісу, і заявіў, што не мае намеру ісці ў адстаўку ў цяжкі для рэспублікі час. Паводле яго слоў, частка дэпутатаў наўмысна не "заўважае" намаганняў урада. Гэтую ж думку прадоўжыў віцэ-прэм'ер Уладзімір Гаркун, які, з дакументамі ў руках абвергнуўшы выстаўленыя супраць яго абвінавачванні, заявіў, што пэўнай групе дэпутатаў у парламенце на шляху да выбараў будзе тым лепш, чым горшая будзе абстаноўка ў рэспубліцы. Затое аб сваім жаданні пайсці ў адстаўку афіцыйна заявілі на сесіі кіраўнік адміністрацыі Прэзідэнта Леанід Сініцын, кіраўнік спраў прэзідэнта Іван Ціцянкоў. Міністр абароны Анатоль Кастэнка пагадзіўся адысці ад спраў на час работы камісіі па вывучэнню фактаў карупцыі, прыведзеных у дакладзе Антончыка. Праўда, пры галасаванні для стварэння такой пастаяннай камісіі не хапіла галасоў дэпутатаў.

Затым у парламенце выступіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Ён выказаў рэзкую нязгоду з фактамі, прыведзенымі ў дакладзе дэпутата Сяргея Антончыка, якія, паводле яго слоў, "вывернуты навыварат". Прэзідэнт лічыць, што прычынай выступлення дэпутата ад апазіцыі стала падрыхтоўка пэўных палітычных сіл да маючых адбыцца выбараў у парламент. Аляксандр Лукашэнка не мае намеру прымаць адстаўку трох адказных асоб з яго каманды — кіраўніка адміністрацыі Леаніда Сініцына, кіраўніка спраў прэзідэнта Івана Ціцянкова і міністра абароны Анатоля Кастэнкі. Ён заявіў, што будзе абараняць людзей, якіх ён узяў у сваю каманду і якія яшчэ "палітычна не абстраляныя". "Я не магу як чалавек "здаць" у цяжкую хвіліну людзей, з якімі разам пачынаў, буду з імі працаваць да таго часу, пакуль у іх веру", — сказаў Прэзідэнт. Ён паведаміў, што ў хуткім часе прадставіць Вярхоўнаму Савету вынікі прынятых мер па фактах, выкладзеных у дакладзе, з якім ён выступаў у парламенце год таму назад, будучы старшынёй актыкарупцыйнай камісіі. Аляксандр Лукашэнка звярнуўся з просьбай да Генеральнага пракурора даследаваць матэрыялы па карупцыі, прадстаўленыя дэпутатам Антончыкам, і паведаміў, што "калі будзе хоць маленькая зачэпка адносна прэзідэнта, абяцаю пайсці ў адстаўку". Прэзідэнт заклікаў дэпутатаў да разважлівасці.

*БЕЛІНФАРМ.*

## МАЛАДЗЕЧАНСКІЯ НАВІНЫ

### Толькі для дзетак

Такое прызначэнне кантэйнера з грузам, які прыбыў днямі ў Маладзечна. Наладзіла яго адпраўку міжнародная дабрачынная арганізацыя "СіціХоуп інтэрнэшнл". У кантэйнеры — прадукты харчавання для дзяцей ва ўзросце да трох год. На пасяджэнні гарадскога фонду падтрымкі насельніцтва, які ўзначальвае кіраўнік спраў Маладзечанскага гарвыканкома Валерый Костка, вырашаны арганізацыйныя пытанні справядлівага размеркавання прыбыўшых пятнаццаці тон прадуктаў паміж маленькімі гараджанамі.

Пакуль жа праверкай змесціва кантэйнера займаецца гарадская санітарна-эпідэміялагічная станцыя.

### І зноў фестываль

Маладзечна нездарма называюць горадам фестываляў. Аб гэтым сведчыць і нядаўняе рашэнне гарвыканкома аб правядзенні ў Маладзечне трэцяга рэспубліканскага фестывалю песні і паэзіі. Мерапрыемства, якое карыстаецца шырокай папулярнасцю ў творчай грамадскасці рэспублікі, пройдзе ў чэрвені. А падрыхтоўка пачалася ўжо.

Мастацкім кіраўніком фестывалю зацверджаны дырэктар Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь Міхаіл Фінберг.

Аргкамітэт, які ўзначаліў старшыня гарвыканкома, працуе над рабочым планам фестывалю.

### Юбілей музыканта

Пяцьдзесят год споўнілася Рыгору Сароку, дырэктару Маладзечанскага музычнага вучылішча імя Агінскага, заслужанаму работніку культуры Беларусі, кіраўніку гарадскога сімфанічнага аркестра.

Таленавіты музыкант, дырыжор, музыказнаўца Рыгор Сарока зрабіў нямала для папулярызацыі музычнага мастацтва. Творчы калектыў, якім ён кіруе, шырока вядомы ў рэспубліцы і за яе межамі. Зусім нядаўна аркестр пабываў у гастрольнай паездцы па гарадах Германіі.

Юбілей свайго кіраўніка Маладзечанскі сімфанічны адзначыў святочным канцэртам у Белдзяржфілармоніі.

### Будзе біфумактэрын

Такую назву носіць лячэбна-прафілактычны сродак, які ў хуткім часе стане выпускаць калгас "Гарадзілава". Атрыманы кансультацыі ў маскоўскіх спецыялістаў, капітальна адрамантаваны і прыстасаваны да новых умоў работы закінуты будынак, вызначаны крыніцы пастаўкі сыравіны.

Біфумактэрын карэкціруе парушэнні мікрафлоры страўнікава-кішачнага тракту, умацоўвае імунную сістэму арганізма. Можна спадзявацца на яго шырокую папулярнасць у насельніцтва, а, значыць, і папаўненне калгаснай касы.

*Марыя КУЗАЎКІНА.*

## ІМЯ АБРАННІКА ПАКРЫТА ЦЕМРАЙ

**Па-ранейшаму застаецца нявырашаным пытанне назначэння кіраўніка выканаўчай улады ў Мінску. Меркавалася, што гэта адбудзецца ў аўторак, 20 снежня. Але дэпутаты, сабраўшыся на сесію, былі расчараваны — арганізацыйнае пытанне ў парадак дня ўнесена не было.**

Як паведаміў прысутным старшыня Мінгарсавета і Мінгарвыканкома Аляксандр Герасіменка, ад прэзідэнта прапаноў па кадраваму пытанню не было. Яно на гэтым тыдні разглядацца не будзе. Дарэчы, дагэтуль кіраўнік гарадской улады не азнаёмлены з даведкай аб выніках праверкі горада прэзідэнцкай камісіяй, хаця яшчэ на мінулым тыдні памочнік прэзідэнта Віктар Кучынскі гаварыў дэпутатам, што даведка гатова.

Дэпутаты мусілі разглядаць планавыя пытанні. Пасля ўнясення паправак і дапаўненняў была нарэшце прынята канцэпцыя сацыяльна-эканамічнага развіцця Мінска, распрацаваная камітэтам эканомікі Мінгарвыканкома пад кіраўніцтвам намесніка старшыні Мінгарвыканкома Пятра Нікіценкі.

З горам напалам вырашылася і другое шматпакутнае пытанне: мінімальнай колькасцю галасоў зацверджаны галоўны рэдактар газеты «Добры вечар». Ім стаў Анатоль Зэкаў, які перад гэтым ужо два гады з'яўляўся выконваючым абавязкі галоўнага рэдактара гэтай газеты.

*Павел ВЕРАБ'ЕЎ.*

## Крымінал-тэлетайп

### ГАСТРАЛЁРЫ З КАЗАНІ

Аператыўнікі Ленінскага райаддзела міліцыі арыштавалі злачынную групу, якая прыехала ў Беларусь з Казані.

Да моманту выкрыцця і арышту казанскія грабежнікі-гастралёры "настрыглі" ў кааператараў і заможных непрацуючых некалькі мільёнаў беларускіх разліковых білетаў і звыш тысячы долараў.

### ПАЖАР "ВЫСВЕЦІЎ" ЗАБОЙСТВА

Полымя вельмі пашкодзіла жылы дом у Барысаве. Не пашкадавала і чалавека — пад абломкамі і галавешкамі знойдзены труп.

Судмедэксперты пралілі святло на гэтае здарэнне. Папершае, устаноўлена асоба пацярпеўшага. Па-другое, адхілена версія, быццам бы пажар узнік па неасцярожнасці самога гаспадара. Аказваецца, уладальнік жывы і менавіта ён, да таго ж раней судзімы і цяпер нідзе не працуючы, дапамог пакінуць гэты свет інваліду другой групы: нанёс мноства цялесных пашкоджанняў. Каб схаваць сляды злачынства, не пашкадаваў і ўласнага дома, падпаліў.

### БЕЗ АХОВЫ, АЛЕ СА ЗБРОЯЙ

У Маладзечне застрэлены прадпрымальнік. Следства, маючы пэўную інфармацыю, адпрацоўвае розныя версіі. Адна з іх прывяла да двух дырэктараў малых прадпрыемстваў. Аб дачыненні іх да забойства размова пакуль не ідзе. Прад"яўлены прэтэнзіі іншага плана: адкуль у людзей, якія займаюцца мірным бізнесам, баявая зброя?

Канфіскаваны два пісталеты. Уладальнікі сама меней будуць пакараны за незаконнае набыццё, захоўванне і нашэнне агнястрэльнай зброі.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ДЗЯРЖАВА ПАВІННА АДКАЗВАЦЬ ЗА СВАЕ АБЯЦАННІ

На момант прыняцця ў Беларусі нацыянальнай Жыллёвай праграмы ў выканкомах мясцовых Саветаў на ўліку для паляпшэння жыллёвых умоў знаходзілася 700 тысяч сем'яў. Што ж рабіць цяпер гэтым людзям, калі будаўніцтва жылля стала асабістай справай грамадзян рэспублікі? Прафсаюзы лічаць, што дзяржава павінна адказваць па сваіх ранейшых абавязацельствах перад тымі, каму гарантавала ў перспектыве атрыманне кватэр.

За кошт якіх крыніц можна сёння ажывіць жыллёвае будаўніцтва? Па гэтай праблеме Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі сумесна з дэпутатамі Вярхоўнага Савета, прадстаўнікамі ўрада і гаспадарчых структур падрыхтавала праект. Прапануецца пры фарміраванні рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў на будучы год прадугледзець павелічэнне аб'ёмаў капітальных укладанняў у будаўніцтва жылля за кошт скарачэння затрат на ўзвядзенне аб'ектаў вытворча-тэхнічнага прызначэння. Ёсць рацыя і ў тым, каб распрацаваць меры заахвочвання тых прадпрыемстваў і іх кіраўнікоў, якія частку прыбытку накіроўваюць на жыллёвае будаўніцтва, а таксама тых, хто звязаны з рамонтам і эксплуатацыяй жылых памяшканняў.

Яшчэ адзін рэальны шлях вырашэння праблемы — даць магчымасць працуючаму чалавеку пабудаваць або купіць дом, кватэру. Для гэтага трэба перагледзець дзяржаўную канцэпцыю аплаты працы: даць наёмнаму работніку больш высокую зарплату, а непрацаздольным катэгорыям грамадзян — адэкватныя выплаты, вырашыць пытанні па крэдытаванню, субсідзіраванню.

Сярод іншых прапаноў, якія заслугоўваюць увагі, ёсць і такія: разгледзець мэтазгоднасць выпуску дзяржаўнай пазыкі "Жыллё", а таксама магчымасці прыцягнення замежных інвестыцый у гэтую галіну, прадастаўлення іпатэчных крэдытаў, выкарыстання імянных прыватызацыйных чэкаў "Жыллё" і "Маёмасць" на любой стадыі будаўніцтва або набыцця кватэр.

Прафсаюзы лічаць таксама, што ёсць неабходнасць узмацніць кантроль за мэтавым выкарыстаннем жылля, вярнуць у жыллёвы фонд кватэры, занятыя дзяржаўнымі і камерцыйнымі структурамі пад офісы. Усе вышэйназваныя прапановы накіраваны прэзідэнту.

*БЕЛІНФАРМ.*

## КГБ ОПЕРИРУЕТ ФАКТАМИ

В здании КГБ состоялась двухчасовая пресс-конференция для белорусских и иностранных журналистов по поводу нашумевшего дела турецких шпионов Демирая Актая и Мехмета Бичака, которые были выдворены из республики.

Напомним, что сотрудники спецслужбы Турции, используя дипломатическое прикрытие, в течение длительного времени занимались вербовкой людей для сбора информации о политическом, экономическом и военном положении нашего государства. И в этом направлении они сумели кое-что сделать. Были завербованы граждане республики и, в частности, журналисты из газеты "Рэспубліка" и Белинформа Юрий Бехтерев и Александр Люшкевич.

Более полутора лет сотрудники КГБ вели тщательное наблюдение за турецкими шпионами и сделали немало видеосъемок. Некоторые кадры были показаны представителям прессы. Из них я понял, что сомнений быть не может в своевременном и оперативном пресечении антигосударственных действий. Это позволило журналистам избежать уголовной ответственности. И это, как заметил председатель КГБ В.Егоров, самое главное.

Корреспонденты интересовались и тем, почему именно турецкие шпионы попали в поле зрения нашей разведки, на что специалисты ответили, что никакого предвзятого отношения не было и заранее не "планировали" вести наблюдение именно за этими иностранными агентами.

Информация, которую передавали журналисты, не является секретной. А страсти вокруг этого дела нагнетала пресса, выдвигая различного рода версии, предположения, а порой искажая истину. В.Егоров полностью отверг упреки и обвинения как несостоятельные.

Лично у меня все-таки появились некоторые неясности и не до конца развеялись сомнения. Уж очень много было на пресс-конференции ответов типа: это секрет, об этом нельзя говорить, не подлежит разглашению и т.п. Вот почему многие мои коллеги не были удовлетворены ответами профессионалов КГБ. Но, так или иначе, считаю, что при всех издержках и оговорках вывод можно сделать один: наше государство при наличии многочисленных дипломатических представительств должно оградить себя от шпионов. Вывод должны сделать и наши журналисты, имеющие некоторый доступ к разносторонней информации.

*Анатолий СМОЛЯНКО.*

## МЕТАЛІЧНАЯ ЛІХАМАНКА

Павышаны попыт на каляровыя металы спарадзіў цэлы напрамак злачыннай дзейнасці. Сёння інтарэс да здабычы і збыту каляровых металаў дасягнуў такога напалу, што яго можна ахарактарызаваць як металічную ліхаманку. Крадуць і валакуць што можна і дзе толькі можна.

Сапраўдным бедствам для Мінска стала рабаванне ліфтоў у жылых дамах. Зламыснікі пранікаюць у ліфтавыя шахты і выразаюць каштоўны кабель. Ліфтавая гаспадарка горада не паспявае аднаўляць сапсаваныя ліфты..

Рабаўнікі зрабіліся нахабнымі настолькі, што нават не рэагуюць на заўвагі жыльцоў, калі тым удаецца заспець іх на месцы злачынства.

Так, нядаўна ў Мінску па вуліцы Варанянскага а палове другой гадзіны ночы зламыснікі паспрабавалі абрабаваць ліфт. На заўвагі жыльцоў адказалі пагрозамі. Ліфт удалося адстаяць, але выкліканая па тэлефоне міліцыя так і не з"явілася.

Вядома, каля кожнага ліфта міліцыянера не пастáвіш, але ж і меры прымаць трэба.

Як паведаміў адзін з кіраўнікоў асацыяцыі "Насельніцтва за бяспеку" Генадзь Шумскі, у свой час уносілася прапанова абсталяваць ліфты ахоўнай сігналізацыяй, але кіраўнікі ліфтавай гаспадаркі не знайшлі на гэта грошай. Складанасць і ў тым, што службы эксплуатацыі ліфтоў і службы эксплуатацыі жылых дамоў належаць да розных ведамстваў. Пры адзіным падпарадкаванні і фінансаванні вырашыць праблему, відаць, было б прасцей.

Пакуль жа рабаўнікам ліфтоў у Мінску — вольніца.



Акно ДАІ

## П"ЯНЫ — ВЕСЯЛІЎСЯ, ЦВЯРОЗЫ — ПРАСЛЯЗІЎСЯ

З пачаткам зімы па-ранейшаму амаль кожнае трэцяе здарэнне на дарогах Міншчыны прыводзіць да трагедыі. У чым прычыны крытычнай сітуацыі? Галоўны віноўнік — "зялёны змей".

Вадзіцель В.М.Бабарыкін пасля ўжывання спіртных напіткаў вырашыў пакатацца ў Маладзечне. Яго "Фольксваген" з"ехаў на правую абочыну, наляцеў на бетонны слуп і дрэва. У аварыі вадзіцель атрымаў траўму, а яго пасажыр — памёр.

Ледзьве не прывяло да смерці сяброўства з "зялёным змеем" рабочага Лагойскага лясгаса А.Д.Рымшы. На 44-м кіламетры аўтадарогі Мінск—Віцебск іншамарка нечакана выехала на паласу сустрэчнага руху і сутыкнулася з "Масквічом". Проста цуд, што нецвярозы вадзіцель і яго 10-гадовы сын засталіся жывыя. Яны атрымалі цялесныя пашкоджанні.

Гэтыя сумныя выпадкі яшчэ раз нагадалі вядомую прыказку: "П"яны быў — дык весяліўся, цвярозы стаў — і праслязіўся". Расплата за такія ўчынкі вельмі дарагая — здароўе і жыццё людзей.

Яшчэ адна праблема — аўтанаезды на пешаходаў і веласіпедыстаў: у снежні яны склалі каля 40 працэнтаў усіх зарэгістраваных дарожна-транспартных здарэнняў. На 60-м кіламетры шашы Мінск—Гомель пад коламі машыны загінулі рабочыя калгаса "Барацьба" Пухавіцкага раёна В.Л.Шалатонін і А.В.Харытончык. Як высветлілася, ахвяры аўтанаезду стаялі і размаўлялі амаль на сярэдзіне праезнай часткі дарогі.

Нельга абысці ўвагай аварыі, учыненыя на зімовай дарозе з-за памылак вадзіцеляў. Дрэнныя ўмовы надвор"я патрабавалі ад тых, хто трымае руль транспартнага сродку, максімум уважлівасці. Але, як сведчаць аператыўныя звесткі ДАІ, не ўсе змаглі паспяхова прайсці гэты "экзамен".

Не справіўся з кіраваннем малакавозам вадзіцель Маладзечанскага міжраённага аўтатранспартнага прадпрыемства Л.У.Ярмоленка. На дарозе Маладзечна—Хожава—Ермакі ля вёскі Мыслевічы ён з"ехаў у кювет і перакуліўся. Вадзіцель атрымаў траўмы і апынуўся на бальнічным ложку.

Праз некалькі гадзін на 55-м кіламетры шашы Мінск—Слуцк каля вёскі Валяр"яны Узздзенскага раёна ў аналагічнай сітуацыі ўчыніў ДТЗ 19-гадовы мінчанін А.Мельнік.

Важкае слова павінны сказаць дарожна-камунальныя службы. Аднак, як паказалі вынікі праверкі вытворчага аб"яднання жылкамгаса Мінскай вобласці на прадмет гатоўнасці камунальнікаў да зімы, не ўсе на месцах падрыхтаваны да аператыўнага рэагавання на абстаноўку. У дрэнным стане знаходзіцца тэхніка, якая абслугоўвае вулічна-дарожную сетку. Большая частка яе ўжо адпрацавала свой тэрмін, шмат тэхнікі патрабуе рамонту, а тая, якая яшчэ можа працаваць, не дагледжана.

Снегаўборачныя машыны, напрыклад, у Жодзіне і Слуцку на момант праверкі знаходзіліся разукамплектаванымі. Не былі распрацаваны і графікі дзяжурстваў інжынерна-тэхнічнага саставу ў Вілейскім, Крупскім, Маладзечанскім раёнах.

Зімовая дарога тоіць у сабе шмат небяспекі. І таму патрабуецца асцярожнасць, адказнасць і клопат аб ёй.

*С.ШОСТАК, супрацоўнік ДАІ УУС аблвыканкома.*

■ Канцэрн "Амкадор"

**Пераход да рынычных умоў унёс істотныя карэктывы ў спецыфіку нашай эканомікі. Усё больш з"яўляецца самастойных, незалежных ад дзяржаўных структур кіравання прадпрыемстваў. Адным з іх з"яўляецца канцэрн "Амкадор". З яго прэзідэнтам В.М.ШЛЫНДЗІКАВЫМ — наша размова.**

# ВОЧЫ БАЯЦЦА — РУКІ РОБЯЦЬ

— Эканамічны крызіс не абмінае нікога. Аднак нашы прадпрыемствы ў асноўным трымаюцца на плаве, — расказвае Васіль Міхайлавіч. — Базавым для нас гадам з"яўляецца 1990-ы, паколькі наша акцыянернае таварыства арганізавана ў красавіку 1991-га. І за прайшоўшы час мы не дапусцілі падзення аб"ёмаў выпуску прадукцыі. Наадварот, нязначна нарошчваем свой эканамічны патэнцыял. Было створана звыш 2 тысяч новых рабочых месц.

Вырабляем пагрузчыкі рознай грузападымальнасці, каткі, снегаачышчальнікі, асфальтаўкладчыкі, фрэзы для зняцця верхняга слою асфальту, экскаватары, шэраг машын і агрэгатаў для аграпрамысловага комплексу і лясной гаспадаркі. Не забываем і пра тавары народнага спажывання — іх у нас шырокі асартымент. Сёлета іх выпушчана амаль на 2 мільярды рублёў. Пастаўляем свае вырабы і за мяжу. Мяркуем атрымаць за іх каля 3 мільёнаў долараў.

**— Пэўна, варта ўспомніць і вашы аўтобусы «Амкадор-Ікарус»...**

— Так, для іх выпуску мы будуем ў Пінску спецыяльны завод. На яго працуюць амаль усе прадпрыемствы канцэрна. Тэхнічныя службы займаюцца распрацоўкай і ўкараненнем у вытворчасць сваіх вузлоў і дэталей. Прыкладна палавіна іх ужо айчынныя. Шырока выкарыстоўваюцца і магчымасці кааперацыі. Частку камплектуючых вымушаны пакуль што закупляць у Чэхіі, Венгрыі, Германіі. Аўтобусы «Амкадор-Ікарус» цёмна-вішнёвай афарбоўкі можна ўбачыць на гарадскіх маршрутах у Мінску.

Зазначу, што ў аўтамабілебудаванні мы навічкі. І без сапраўднай навукі, без даследаванняў, без новых тэхналогій нам не абысціся. На рынку трэба прадаваць тавар высокай якасці, інакш уступім месца іншаму. У Гомелі збіраюцца рамантаваць аўтобусы тыпу «Ікарус», нават спісаныя. Па 300 штук у год.

А вось і больш сур"ёзныя канкурэнты: Мінскі аўтамабільны, Лідскі /былы ваенны/ і Магілёўскі аўтазавод. Так што нашым канструктарам і зборшчыкам ёсць над чым задумацца, як зацікавіць транспартнікаў браць менавіта нашы машыны.

Вядома, не абысціся нам без буйных інвестыцый у навукова-даследчыя і доследна-канструктарскія работы, распрацоўку тэхналогій і закупку неабходнага абсталявання. Праблем набягае нямала, імкнёмся паспяхова іх вырашаць. Не апускаем рукі, дзейнічаем па прынцыпу: вочы баяцца — рукі робяць.

Дарэчы, сёлетняя праграма работ па новай тэхніцы ўключае 83 тэмы, якія ў асноўным выкананы. Нашы канструктары не страцілі пачуцця навізны. Яны дасканала вывучаюць рынкі попыту і ствараюць шэраг новых машын для дарожнага будаўніцтва, транспарту, лясной і сельскай гаспадаркі. Многія старыя канструкцыі абнавілі, зрабіўшы іх эфектыўнымі і высокаэканамічнымі. Даспадобы прыйшліся нашым кліентам пагрузчыкі з новымі кабінамі, зменнымі рабочымі органамі і палепшанымі эксплуатацыйнымі якасцямі, універсальныя шасі, машыны для транспартавання лесу, аэрадромны пыласос і многае іншае.

**— Якія ж планы на новы год?**

— Узрастуць аб"ёмы тавараў народнага спажывання, абсталявання для аграпрамысловага комплексу. Іх наменклатуру з 49 адзінак давядзём да 83. Вытворчасць асноўнай прадукцыі, у тым ліку і пагрузчыкаў, павялічыцца з 13 да 18 відаў, расшырыцца гама каткоў, снегаачышчальнікаў. Прапануем спажыўцам экскаватары, вялікагрузныя і малыя пагрузчыкі. Сумесна з чэхамі наладжваецца выпуск грузавікоў.

Падкрэслю: па кожнаму вырабу прадугледжваецца і расшырэнне іх асартыменту, і колькасны рост.

Распрацоўка і асваенне сучаснай прадукцыі патрабуе велізарных затрат. Аднак яны акупляюцца. Так, за апошнія тры гады ад вытворчасці новай тэхнікі толькі на заводах «Ударнік» і доследным прыбытак узрос у шэсць разоў, а аддача на 1 рубель затрат у СКБ складае не менш як 10 рублёў.

**— Васіль Міхайлавіч, ваш «Амкадор» стварайся на базе некалькіх прадпрыемстваў. А цяпер іх у вас...**

— ...больш васьмідзесяці. Лічым, што мы стратэгічна правільна выбралі свой кірунак развіцця: арганізацыя ў складзе канцэрна дачэрніх, малых і сумесных прадпрыемстваў. Так, стварылі новую службу «Амкадор-дызайн» і вызначылі яе галаўною па вытворчасці тавараў народнага спажывання. Спадзяёмся, што іх наменклатура, якасць, знешняе афармленне і ўпакоўка ўзнімуцца на больш высокі ўзровень.

«Амкадор-Прамтэй» займаецца выпускам акумулятараў, для чаго прадпрыемства асначшчаецца перадавой тэхналогіяй, сучасным абсталяваннем.

Далейшае развіццё атрымаюць фірмы «Рэнат» /вытворчасць счаплення для машын/, «Маг» /размеркавальнікаў/, «Унікаб» /новая гама кабін/. А вось прадпрыемства «Кібр» з выпускам сыру «Свіцязь» арганізуе вытворчасць віна і белага хлеба.

Падобная шматпрофільнасць адкрывае шырокую прастору для манеўру, дазваляе кампенсаваць панесеныя на адным участку страты за кошт прыбытковасці іншых. Удзельная вага наваствораных прадпрыемстваў у агульным аб"ёме складае амаль 40 працэнтаў. Яны ўнеслі ў бюджэт канцэрна звыш 50 працэнтаў прыбытку.

**— Усё гэта добра, Васіль Міхайлавіч. Але ж ад каго толькі не чуеш сёння, што законы рынку дзейнічаюць на паперы, аб'яўленая эканамічная самастойнасць вытворцаў звязваецца па руках і нагах рознымі законнымі і падзаконнымі актамі, распараджэннямі і інструкцыямі дзяржаўных органаў. Як у вас ажыццяўляецца той жа гаспадарчы манеўр — без перашкод?**

— Калі б гэта было так! Мы працуем са знакам «плюс», аднак атрыманага прыбытку не хапае нават на прамое ўзнаўленне, не гаворачы ўжо аб расшыраным. Затрымка ў разліках з боку нашых асноўных спажыўцоў прыводзіць да таго, што паступленне да нас грошай за рэалізаваную намі прадукцыю намнога адстае ад росту цэн на камплектуючыя вырабы. Такі разрыў пакідае калектывы канцэрна практычна без абаротных сродкаў.

Інфляцыя з"ядае ўсё. Ды яшчэ падаткі забіраюць амаль увесь прыбытак, пакідаючы нам капейкі. Не стымулюецца ў нас яшчэ арганізацыя высокатэхналагічных, навукаёмістых, энерга- і металазберагаючых вытворчасцей, а таксама працоўных на экспарт, як гэта робіцца ў эканамічна развітых замежных краінах.

Па ўзроўню тэхналогій мы значна ўступаем Захаду практычна ў большасці галін. А без тэхналагічных прарываў канкураваць з замежнымі фірмамі нельга. Патрэбна прадуманая дзяржаўная палітыка па прыцягненню заходніх тэхналогій і інвестыцый. І не толькі заходніх.

Варта заканадаўча заахвочваць замежныя фірмы ў выпуску прэстыжных для нас вырабаў, зыходзячы з прыярытэтаў развіцця нашай рэспублікі, перадаючы сумесным прадпрыемствам памяшканні неперспектыўных вытворчасцей, закупляць адпаведныя ліцэнзіі.

Незразумела і тое, чаму ў нас баяцца транснацыянальных кампаній. Прамысловасць Беларусі стваралася для задавальнення патрэб усяго былога Саюза. Зараз рынак для нашых гігантаў індустрыі — перш за ўсё Расія, Украіна, Казахстан. І для захавання беларускай прамысловасці мэтазгодна частку акцый прадаваць нашым галоўным спажыўцам. Тады краіны СНД не будуць будаваць свае заводы, скажам, па выпуску вялікагрузных кар"ерных аўтамабіляў, як жодзінскія, ці трактароў, аналагічных мінскім. Як акцыянеры, яны будуць зацікаўлены ў павелічэнні іх вытворчасці на нашых прадпрыемствах.

Да таго ж транснацыянальныя кампаніі /карпарацыі/ стануць надзейным аб"яднальным фактарам. Менавіта яны прымусяць кіраўнікоў сваіх дзяржаў хутчэй ствараць дзейсны эканамічны саюз.

А пакуль што на вачах развальваецца эканоміка, не створаны асноўныя перадумовы для свабоднага руху капіталу, матэрыяльных і працоўных рэсурсаў. Ініцыятыва і прадпрымальнасць недзяржаўных структур прамысловасці зводзіцца на нішто адсутнасцю адпаведнай заканадаўчай базы. Ад гэтых і іншых недахопаў мы пазбаўляемся толькі на словах, пераконваючы адзін аднаго ў хутчэйшым развіцці рынычных адносін. Але ж ужо даўно настаў час перайсці ад размоў да канкрэтных спраў.

*Гутарыў Пётр СІДАРОВІЧ.*

# У ПАЛОНЦЫ ЯК НА СОНЦЫ

## Сцюжа не палохае членаў мінскага клуба "Паплечнік". Купальны сезон яны працягваюць круглы год

Людзі па-рознаму ўспрымаюць іх захапленні. Некаторыя круцяць пальцам ля скроні, калі паглядзяць, як гэтыя «апантаныя» акунаюцца ў палонку. А ёсць і такія, што падхопліваюць іх пачын і далучаюцца да «маржоў». Яны называюць адзін аднаго паплечнікамі. І не толькі таму, што з"яўляюцца членамі аднаго клуба. Паплечнік для іх — гэта верны, надзейны таварыш.

Соф"я Радзівонаўна і Барыс Аляксеевіч Ларыёнавы стварылі гэты клуб больш за пяць гадоў таму назад. «Моцная сям"я — наша асноўная мэта", — кажа Соф"я Радзівонаўна. Натуральна, што калі бацькі і дзеці захоплены адной цікавай справай, сям"я мацнее. Гэта датычыцца і сям"і Ганчаровых. Першакласніца Каця і другакласнік Алёша з не меншай ахвотай, чым іх бацькі, прымаюць халодныя ванны. Я гляджу, як басаногая дзяўчынка следам за братам смела ідзе да палонкі — і мне, прызнаюся, хочацца апрануць на сябе яшчэ адно футра. Брат з сястрычкай весела смяюцца. Ім і ранішняя халадэча зусім не страшная: адчуваюць сябе ў палонцы як на сонцы. Купанне ў любое надвор"е — гэта толькі частка аздараўленчай сістэмы «Паплечніка». За аснову тут узялі правілы Парфірыя Іванова. Адно з іх — абліванне халоднай вадой кожную раніцу і кожны вечар. А ўсяго правіл дванаццаць. Акрамя таго, члены клуба мяняюць сваё харчаванне, уключаюць у рацыён малавядомыя ў нас прадукты, напрыклад, сою. Паступова адмаўляюцца ад мяса. А яшчэ яны не кураць і не ўжываюць алкаголю. Зусім.

Тых, хто прыходзіць сюды ўпершыню, запрашаюць паслухаць лекцыю. Да групы навічкоў далучылася і я. І вось якія парады пачула: «Пачынаць трэба са здаровых думак. Кожную раніцу, якой бы яна ні была, сустракайце з радасцю. Пажадайце здароўя сабе, сваім блізкім, усім людзям».

А потым навабранцы займаюцца на курсах. Яны шмат даведваюцца пра сістэму Іванова, пра тое, як правільна харчавацца, як пазбавіцца ад хвароб. Калі адчуюць сябе псіхалагічна падрыхтаванымі, пачынаюць купацца. На Камсамольскае возера, дзе кожную нядзелю збіраюцца «паплечнікі», прыходзяць і тыя, хто пакуль не адважваецца залезці ў халодную ваду, і проста цікаўныя.

Сустракаюцца «маржы» не толькі на курсах ды на возеры. Яны разам ходзяць у паходы па Беларусі, былі на Украіне. Разам сустракаюць святы. На Новы год едуць у лес, распальваюць вогнішча. Клуб стаў для іх месцам духоўных зносін.

*Марына ЛАЗУКА.*

# СПЯВАЛІ, СКАКАЛІ БАБУЛЯ І ЎНУЧКА

**Сёння мы шмат гаворым пра аднаўленне традыцый, нацыянальнае адраджэнне. І добра, калі такія размовы не застаюцца пустым гукам, а ператвараюцца ў канкрэтныя справы, падзеі. Няхай і не ў агульнарэспубліканскім, а ў мясцовым маштабе.**

У Нясвіжы, напрыклад, ухітрыліся арганізаваць сапраўдныя «культурныя спаборніцтвы».

Улічваючы, што 1994-ы — Год сям"і, упор зрабілі на святах для сваякоў і з іх удзелам. Высветлілася, што на Нясвіжчыне жыве шмат артыстычных натур, таленавітых людзей.

Вось і нядаўна ў раённым Доме культуры выступалі сямейныя ансамблі. Вядучыя свята Таццяна Лук"янчык і Ганна Віннічак сустракалі гасцей-выканаўцаў, віталі іх. Самадзейных артыстаў прыйшло шмат. Група з вядомага ў рэспубліцы Лявонавіцкага народнага хору /дарэчы, у ёй усе — сваякі/ парадавала прыгожым выкананнем народных песень. Бабуля Ірына Мікалаеўна Шчурская з малой унучкай Юлечкай са Смалічоў весела і задзірыста спявалі прыпеўкі. Прадстаўнікі дзіцячага дома сямейнага тыпу Бушмакіных таленавіта ігралі на музычных інструментах, ліха вытанцоўвалі. Варта сказаць і пра Самкевічаў са Снова. У гэтай сям"і ўсе — музыканты. Маці, яе брат, дачка, сын прыгожа співаюць. А бацька яшчэ і добра малюе. Самкевічы ў складзе ансамбля «Вяночак» нават выступалі ў Германіі.

Усіх гасцей на тым вечары частавалі чаем з пірагом. Ім на памяць уручылі падарункі.

Я пацікавіўся ў метадыста раённага арганізацыйна-метадычнага цэнтра Наталлі Анатольеўны Калеснікавай, ці часта праходзяць падобныя мерапрыемствы. Аказалася, сёлета іх было нямала: « Я + Я», «Ану, бабулі!», "Тата, мама і я — дружная сям»я" і іншыя. Адкрылі шмат талентаў. Ёсць цяпер каго запрашаць і на навагоднія ранішнікі ды вечары, і на святкаванне 55-годдзя ўтварэння Нясвіжскага раёна.

*Іван ХВІР, студэнт факультэта журналістыкі БДУ.*

*Нясвіжскі раён.*

■ АПК і рынак

# Фірменны гандаль— выйсце з тупіка

**У тупіковым фінансава-эканамічным становішчы апынуліся многія гаспадаркі Барысаўскага раёна. Так ахарактарызаваў сітуацыю кіраўнік мясцовага аддзялення Аграпрамбанка А.В.Міжэвіч. І сапраўды, агульная запазычанасць калгасаў і саўгасаў банку раёна складае каля 8 мільярдаў рублёў. Толькі сума непагашэння працэнтаў узятых імі крэдытаў дасягнула амаль паўмільярда рублёў. На невясёлыя разважанні наводзіць і той факт, што выручка ад рэалізацыі прадукцыі 14 гаспадарак (а гэта амаль палавіна іх агульнай колькасці) аказалася ніжэй сумы, неабходнай для пагашэння крэдытаў, тэрмін аплаты якіх ужо настаў.**

Было б несправядліва за такое становішча гаспадарак вінаваціць толькі працоўныя калектывы, іх кіраўнікоў. У пераважнай большасці калгасаў і саўгасаў працаўнікі палёў і ферм, спецыялісты аддаюць справе ўсе свае сілы. Аднак эканоміку гаспадарак па-ранейшаму падкошваюць непарытэт цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю, затрымкі разлікаў перапрацоўчых прадпрыемстваў. Вяскоўцы пастаўлены ў такія ўмовы, што чым больш атрымліваюць жывёлагадоўчай прадукцыі, тым больш нясуць страт.

Дык ці ёсць якое-небудзь выйсце з фінансавага тупіка? Менавіта на гэтае пытанне і імкнуліся знайсці адказ арганізатары і ўдзельнікі раённага семінара кіраўнікоў гаспадарак Барысаўшчыны, прысвечанага праблеме арганізацыі і пашырэння фірменнага гандлю.

Вяскоўцы даўно заўважылі, што гандлёвыя і іншыя пасрэдніцкія арганізацыі толькі ад продажу гатовай сельскагаспадарчай прадукцыі атрымліваюць больш прыбытку, чым самі вытворцы. Горш таго, калгасы і саўгасы нярэдка нават пасля рэалізацыі сваёй прадукцыі месяцамі чакаюць грошай для выплаты заработкаў сваім калгаснікам і рабочым. Таму некаторыя разважлівыя гаспадарнікі ўзялі на сябе дадатковы клопат па арганізацыі фірменнага гандлю, каб мець больш прыбытку ад рэалізацыі ўласнай прадукцыі.

Мяркую, што нават самых стойкіх скептыкаў пераканалі ў несумненнай выгадзе фірменнага гандлю красамоўныя лічбы і факты, якія паведаміў прысутным у Забашавічах дырэктар мясцовага саўгаса "Радуга" В.Р.Самусенка. За рэалізаваныя мясакамбінату 13 тон свініны гаспадарка атрымала 2 мільёны рублёў прыбытку. А ад продажу 8 тон такога ж самага мяса праз свой фірменны магазін прыбытак склаў 4 мільёны рублёў.

Каментарыі, як кажуць, не патрэбны. Застаецца толькі дадаць, што месячная выручка магазіна за кастрычнік склала 14 мільёнаў рублёў, і гэтых грошай хапіла для выплаты заработнай платы ўсяму працоўнаму калектыву гаспадаркі.

Фірменны магазін працуе ўсяго толькі тры месяцы ў цэнтры саўгаса ў арандуемым памяшканні былога кніжнага магазіна Прыгараднага сельпо. І за такі кароткі час ён прыйшоўся даспадобы вяскоўцам, бо ў ім можна набыць значна танней, чым у дзяржаўнай краме, і свініну, і ялавічыну. Завозяцца ў магазін тавары гаспадарчага прызначэння, што карыстаюцца попытам.

Аднак кіраўнік саўгаса лічыць, што адзін фірменны магазін не ў стане закрыць брэш у бюджэце. Таму і было прынята рашэнне ўзяць у арэнду і ажывіць работу мясцовай хлебапякарні, якая належыць камбінату кааператыўнай прамысловасці райспажыўсаюза. Паводле папярэдніх падлікаў спецыялістаў, пры поўнай загрузцы хлебапякарні пасля правядзення рэканструкцыі месячная выручка ад рэалізацыі выробленай тут прадукцыі можа дасягнуць 20 мільёнаў рублёў. Ёсць намер запусціць у работу свой саўгасны сталярны цэх у вёсцы Слабодка. Яго прадукцыя таксама прынясе немалы прыбытак у саўгасную касу.

Саўгас "Радуга" быў апошнім аб'ектам раённага семінара. Там жа, у мясцовым СДК, прайшло і пленарнае пасяджэнне. А да гэтага кіраўнікі гаспадарак азнаёміліся з работай размешчаных у горадзе фірменных магазінаў калгасаў "Боркі", "Маяк", саўгаса "Гвардыя".

Арандуемы ў горадзе магазін "Агароднiна" калгасу "Маяк" у апошнія месяцы прыносіць па 6—7 мільёнаў рублёў прыбытку. Яшчэ большы прыбытак мае гаспадарка ад фірменнага магазіна, размешчанага на цэнтральнай сядзібе ў вёсцы Жыцькава. І гэта не ўсё: заканчваецца будаўніцтва яшчэ аднаго фірменнага магазіна ў вёсцы Любатоўшчына.

Калгас "Боркі" некалькі месяцаў назад узяў у арэнду былое складское памяшканне гарпрамгандлю і пераабсталяваў яго пад фірменны магазін "Барок". Там прадаецца прадукцыя як уласнай вытворчасці, так і закупленая ў саўгасе-аграфірме "Стара-Барысаў", калгасе "Маяк", у іншых месцах. На давальніцкіх асновах гаспадарка атрымлівае мясныя кансервы з Аршанскага мясакамбіната, каўбасныя вырабы — з камбіната райспажыўсаюза.

Як зазначыў старшыня калгаса В.І.Сакавец, аднаго фірменнага магазіна ў горадзе для гаспадаркі недастаткова, бо дорага абыходзяцца транспартныя расходы. Паводле яго меркавання, трэба мець як мінімум тры гандлёвыя кропкі. Таму кіраўніцтва гаспадаркі прапрацоўвае варыянты пашырэння фірменнага гандлю. Узята ў арэнду адно памяшканне каля завода "Аўтагідраўзмацняльнік". Ёсць намер пабудаваць свой магазін у раёне вуліцы Трусава. Вядуцца перагаворы з кіраўніцтвам аб выкарыстанні пад фірменны гандаль памяшкання магазіна ў вёсцы Боркі.

Багатым асартыментам кулінарных, кандытарскіх і мясных вырабаў сустракаў наведвальнікаў фірменны магазін саўгаса "Гвардыя" — "Залаты певень". Напярэдадні ў гаспадарцы ўступіў у дзеянне новы каўбасны цэх, і ў продажы была свежая вяндліна, трох сартоў каўбаса, куры, яйкі, паўфабрыкаты. Акрамя чатырох фірменных магазінаў у гаспадарцы працуе грыль-бар, сталовая з кулінарным цэхам.

За мінулыя дзесяць месяцаў фірменны гандаль прынёс "Гвардыі" каля 36 мільёнаў рублёў чыстага прыбытку, а агульны аб'ём тавараабароту дасягнуў 900 мільёнаў рублёў. Як паведаміў дырэктар саўгаса В.А.Седзін, праз свой фірменны гандаль гаспадарка рэалізуе амаль трэць атрымліваемых яек і каля 30 працэнтаў мяса бройлераў. А пасля ўводу ў эксплуатацыю кансервавага цэха праз фірменныя магазіны мяркуецца прадаваць да 80 працэнтаў уласнай прадукцыі.

Думаецца, узяты птушкаводамі курс на глыбокую перапрацоўку прадукцыі ўласнай вытворчасці і яе продаж праз свае магазіны варты не толькі ўвагі, але і пераймання.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

■ 1994 — Год сям"і



# НАВОШТА КЛАД, КАЛІ Ў ДЗЕТКАХ ЛАД

Святлана і Валерый сталі мужам і жонкай у 1987 годзе. Адгрымела вяселле, зажыла новая сям"я ў вёсцы Шараі Дорскага сельсавета, што на Валожыншчыне. Святлана тады ўжо скончыла медвучылішча, Валерый працаваў у калгасе «Чырвоны сцяг» вадзіцелем. Як гаворыцца, сталі жыць-пажываць, дзяцей нажываць.

Першынец, якога назвалі Паўлам, не прымусіў сябе чакаць. Сёння яму сем гадоў. Летась у жыцці хлопчыка адбылася важная падзея: ён стаў першакласнікам.

А ўсяго добразычлівы «бусел» прынёс у сям"ю Кулікоў ... цэлую хакейную каманду. Як гарошынкі, пасыпаліся ў калыску хлопчыкі: Віталік (яму зараз 5 гадоў), Алёша (4 гады), Дзіма (3 гады) і Арцёмка (2 гады).

Калі дзетак было трое, атрымала сям"я дом у двух узроўнях, на пяць пакояў. Абжываюць яго ўжо чатыры гады, паспелі нават выкупіць. Пашанцавала і ў тым, што якраз цераз дарогу жывуць бабуля і дзядуля, бацькі Святланы.

Усякі раз, калі гаворым мы пра мнагадзетную сям"ю, пачынаем са шматлікіх праблем: як і чым накарміць, у што апрануць, дзе жыць? Для Кулікоў гэтых пытанняў быццам і не існуе. Трывалыя карані ў вёсцы, з дзяцінства ўласцівая цяга да працы, бацькоўская дапамога з абодвух бакоў дазваляюць жыць не горш за іншых.

Святлана Іосіфаўна працуе медсястрой у Дорскай амбулаторыі. Валерый Мікалаевіч, як і належыць галаве сям"і, завіхаецца на дзвюх работах. Ён — шафёр міжкалгаснай пажарнай службы, а яшчэ ў сваёй жа гаспадарцы водзіць мікрааўтобус. Трымаюць дзвюх кароў, свіней, курэй. Былі ў іх трусы, індыкі. Парасят, здараецца, прадаюць. Маюць гектар зямлі. Усё гэта і корміць, і апранае. На зіму назапашваюць у вялікай колькасці розныя варэнні і саленні. Гэта ў гарадской сям"і можна дакладна падлічыць, колькі выпіваецца малака, з"ядаецца хлеба, круп у дзень, месяц. Валерый жа толькі здзіўлена пацiснуў плячыма наконт малака: а хто ж яго мераў? П"юць яго хлопчыкі колькі пажадаюць. Таму, відаць, такія і ружавашчокія!

Размаўляць мне давялося больш з бацькам, бо маці завіхалася па гаспадарцы. Уплыў Валерыя на выхаванне сыноў адчувальны. Ён нават паўтара года знаходзіўся ў водпуску па догляду дзіцяці. Выхоўваў адразу чатырох сыноў (малодшаму на той момант было ўсяго тры месяцы), пакуль не нарадзіўся пяты — Арцём. Таму і зазначае сёння Валерый з гордасцю: «Спраўляўся і накарміць, і дагледзець». Добра ведае бацька і характар кожнага са сваіх сыноў. А яны такія розныя!

Віталік, напрыклад, упарты. Лёшка вельмі жвавы. А Арцём надзвычай дасціпны. Старэйшы Паўлік — памочнік. Умее карову загнаць у хлеў і выгнаць у поле. У многіх хатніх справах дапамагае.

Сям"я Кулікоў — шчаслівая. Пра гэта здагадацца зусім не цяжка. Дастаткова зірнуць на твары малых і дарослых. І ўбачыць, як хлопчыкі (нібы грыбкі-баравічкі) высыпаюць на ганак: бялявыя, блакітнавокія. Я тады падумала: «Навошта клад, калі ў дзетках лад».

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

*Валожынскі раён.*

**НА ЗДЫМКУ:** вось такая яна, сям"я Кулікоў з валожынскай вёскі Доры.

*Фота Барыса САЧАНКІ.*

# Насенне — першакласнае

Працаўнікі саўгаса імя Фрунзе Дзяржынскага раёна арганізавана ўзяліся за падрыхтоўку да веснавой сяўбы. Галоўны клопат — ачыстка насеннага матэрыялу яравых збожжавых і зернебабовых культур.

— У нас склалася добрая традыцыя, — гаворыць аграном-насеннявод А.Валевіч, — рыхтаваць насенне яшчэ ў час уборкі ўраджаю. На цэнтральнай сядзібе гаспадаркі ў вёсцы Дворышча дзейнічае тэхналагічная лінія па прасушцы насення і давядзенню яго да высокіх пасяўных кандыцый. Таму ў грамадскіх свірнах захоўваюцца авёс і ячмень толькі першага і другога класаў. Ды і засыпана ярыны ўдвая больш плана, прычым высокаўраджайных сартоў, якія ва ўмовах сёлетняй спякоты далі па 30—40 цэнтнераў з гектара.

Цяпер спецыяльная брыгада паляводаў вядзе ачыстку насення льну, шматгадовых траў, бабовых культур. Уся работа будзе завершана да новага года.

*Анатоль ШАРАЕЎ.*

# НА СЛУЦКАЙ ПОЎНАЧЫ — "ЗЭ-КА"

Як аказалася, і ў іх здараюцца наваселлі. Ва ўсякім разе, дзесятак-другі асуджаных злачынцаў ужо сёння «абжываюць» камеры новай турмы, якая — хочацца спадзявацца! — надзейна зачыніла за імі дзверы. Іх новае месца знаходжання — у Слуцкім раёне, дзесьці на поўначы. Праўда, даўно адкрытай і абжытай расійскімі вайскоўцамі, якія яшчэ па вясне адбылі на сваю, як цяпер гавораць, гістарычную радзіму.

Як здарылася, што колішні ваенны гарадок ператварыўся ў «гарадок зняволеных»?

— Спачатку мы звярнуліся ў былы ўрад з прапановай стварыць там, у Паўлаўцы, інтэрнат для інвалідаў — месц на 400, — растлумачыў намеснік старшыні Слуцкага райвыканкома В.Гіліцкі. — Але нас не падтрымалі: маўляў, няма на гэта сродкаў. Тады «прыдумалі» санаторый для чарнобыльскіх дзяцей, але «наверсе» падлічылі: куды больш танна пабудаваць новы. Па той жа прычыне не «прайшоў» інтэрнат для псіхахронікаў.

Відаць, не надта багатыя ў нас Мінздраў і сацзабеспячэнне...

Карацей, з айчынных «інвестараў» толькі магутны МУС не даў прапасці слуцкай поўначы. Разгрузіўшы тым самым свае, відаць, перапоўненыя папраўча-працоўныя ўстановы. І абвясціўшы ўсім, хто не ў ладах з законам: што-што, а грошы на краты ў нас знойдуцца...

*Інеса ПЕТРУСЕВІЧ.*

# МАРАЗЫ ЦЭНАМ НЕ ПЕРАШКОДА, АСАБЛІВА ГАРЭЛЦЫ

Нягледзячы на маразы, паранейшаму захоўваецца адліга сярод цэн. І з 20 снежня зноў падаражэла белая гарэлка. Як і ў папярэдні раз, паўлітровая бутэлька — на тысячу, а 0,7 літра — на 1.400 рублёў. З аўторка прыходзіцца ўжо выкладваць за паўлітра «Пшанічнай» і «Сталічнай» у звычайным афармленні 7.230, а ў спецыяльным і экспартным — 7.290 «зайчыкаў», за «Рускую» і «Маскоўскую асобую» адпаведна па 7.160 і 7.220 рублёў.

Паводле звестак, атрыманых у Камітэце цэн Міністэрства эканомікі рэспублікі, чарговае падаражанне моцнага напітку звязана са зніжэннем курса беларускага рубля, а таксама з прадухіленнем яго вывазу за межы Беларусі. Паколькі наша гарэлка таннейшая, чым у суседніх рэгіёнах.

*БЕЛІНФАРМ.*




# АДВАЖНЫЯ

**24 чэрвеня 1941 г. сям"я Караньковых, ратуючыся ад нямецкай бамбардзіроўкі, была вымушана пакінуць Мінск. Выйшлі за горад, спыніліся на начлег у лесе. Старэйшы брат Сяргей, чыгуначнік, пайшоў на начное дзяжурства па таварнай станцыі, загадаўшы на досвітку рушыць на ўсход. Але маленькія дзеці на руках, цяжка захварэўшы сярэдні брат Аляксандр не давалі магчымасці рухацца хутка. Дабраліся толькі да Смалявічаў, дзе ўжо быў нямецкі дэсант. У ліпені, як і шмат хто з іншых бежанцаў, вярнуліся ў Мінск.**

Сям"я Караньковых ужо восенню 1941 г. склала ядро невялікай, але дзейснай падпольнай групы. У яе склад уваходзілі браты Аляксандр і Сяргей, сястра Зінаіда, іх стрыечныя брат і сястра Уладзімір Карповіч і Зінаіда Андрыянава, а таксама механік ЦЭЦ-1 Дзмітрый Бязмен.

А.Каранькоў і Д.Бязмен, з"яўляючыся камуністамі, настойліва шукалі сувязь з гарадскім падпольным партыйным цэнтрам і ўрэшце яе знайшлі. Восенню 1941 г. яны выйшлі на сябра падпольнага гаркома КП(б)Б В.К.Нікіфарава ("Ваціка"), ад якога атрымлівалі заданні. Адным з першых заданняў быў збор разведвальнай інфармацыі аб варожых перамяшчэннях па чыгунцы. Сяргей Каранькоў жыў у доме па вуліцы Смаленскай, побач з чыгуначнымі пуцямі, вокнамі на іх. Не выходзячы з дому, падпольшчык назіраў за рухам цягнікоў, вёў падлікі, звесткі праз брата Аляксандра перадаваў "Ваціку". Улік руху эшалонаў, праходзячых праз Мінск, вялі таксама Д.Бязмен, У.Карповіч, В.Каранькова.

Па заданню В.Нікіфарава на кватэры Д.Бязмена, які жыў па Чырванамысленскаму завулку, дом № 7, кв. 2, у снежні 1941 г. была ўстаноўлена падпольная ручная друкарня. Шрыфты і іншае друкарскае абсталяванне на кватэру Бязмена даставілі з гета Аляксандр і Зіна Караньковы, Уладзімір Карповіч. У студзені-лютым 1942 г. тут з дапамогай двух прадстаўнікоў гета (прозвішчы невядомы) групай былі надрукаваны тры лістоўкі "Весткі з Радзімы" і зварот падпольнага гаркома партыі да жыхароў Мінска агульным тыражом каля 1 тыс.экз. Надрукаванае група актыўна распаўсюджвала.

Вясной 1942 г. былая студэнтка БДУ Зіна Андрыянава ўладкавалася на працу ў якасці перакладчыцы ў дырэкцыю імперскіх чыгунак "Мінск". Працаваць давялося пад кіраўніцтвам сакратара ўпраўлення чыгунак, нямецкага афіцэра Ганса Штрубэ. Хутка асвоіла нямецкую пішучую машынку. Калі працаваць на ёй стала ўпэўнена, акрамя рознай дробязі пачалі даручаць друкаваць паўсядзённы "Рапарт" аб здарэннях на чыгунках "Мінск". "Рапарт" друкаваўся ў некалькіх экземплярах і накіроўваўся германскаму міністэрству зносін, ваенным.

Каб заслужыць давер на службе, Андрыянава была стараннай, рупліва выконвала кожнае заданне Штрубэ. Тым часам рабіла для сябе выпіскі з загадаў, абагульненых данясенняў, паўсядзённых "рапартаў"-справаздач, прыхоплівала дакументы — і дахаты, дзе выпісвала патрэбныя звесткі. Разам з Зінай Караньковай, якая таксама да вайны вучылася ва універсітэце і ведала нямецкую мову, праседжвала ночы над перапісваннем і перакладам нямецкіх дакументаў.

Звесткі праз Аляксандра Каранькова неадкладна перапраўляліся ў партызанскія атрады, адтуль — за лінію фронта. Гэта былі вельмі каштоўныя разведвальныя звесткі.

Хоць Андрыянава рабіла ўсё гэта асцярожна, Штрубэ ўсё ж заўважыў, што ёю робяцца выпіскі з дакументаў. У адзін з дзён восені 1942 г. ён, як гаворыцца, схапіў Зіну за руку, калі яна ўзяла з сейфа сакрэтны дакумент, збіраючыся выпісаць неабходныя звесткі. Але замест таго, каб арыштаваць дзяўчыну, афіцэр пайшоў на кантакт, растлумачыў сваю пазіцыю, погляды на вайну. Пазіцыю і погляды антыфашыста. Ганс Штрубэ вырашыў дапамагаць мінскім падпольшчыкам, стаў працаваць у цесным кантакце з Андрыянавай, сям"ёй Караньковых, згадзіўся на сустрэчу з кіраўнікамі падполля. З гэтага часу Зіна Андрыянава друкавала адзін экземпляр "рапарта" аб здарэннях на чыгунцы для сябе, каб перадаць яго потым за межы горада. Несла пасля работы дамоў. Баючыся, каб Зіну па дарозе не затрымалі, Штрубэ стаў яе пастаянным праважатым. У Андрыянавых пазнаёміўся з Зінай Караньковай. Гэтая тройка, выконваючы адно заданне, моцна здружылася, разумеючы ўсю важнасць справы.

Заданні В.Нікіфарава група выконвала да восені 1942 года, да яго арышту і гібелі. Потым Аляксандр Каранькоў і Уладзімір Карповіч здолелі ўстанавіць сувязь з лагойскімі партызанамі. Зноў збіралі разведвальную інфармацыю, перасылалі медыкаменты і патроны, зброю. Восенню ж сорак другога сям"ю Караньковых напаткала трагедыя. Здарыўся першы правал у групе. 13 кастрычніка 1942 г. Аляксандр быў арыштаваны СД і ў канцы кастрычніка павешаны.

Астатнія Караньковы, застаўшыся на свабодзе, адважна працягвалі барацьбу. Праз іх кватэры ў лес ішла інфармацыя, якую здабывалі Штрубэ і Андрыянава, зброя, медыкаменты. Пасля правалу адной з явак, дзе СД захапіла дакументы, якія маглі скампраметаваць З.Андрыянаву, што выклікала яе пераход у ліпені 1943 г. у партызанскі атрад, Зіна Каранькова стала асноўным сувязным Ганса Штрубэ (яго падпольная мянушка — "Фёдар"). Праз гэтую звязку "Штрубэ—Каранькова" Лагойскі падпольны райком КП(б)Б аж да кастрычніка 1943 г. атрымліваў сістэматычную інфармацыю аб тым, што рабілася на чыгунках "Мінск". Перадаць усё за лінію фронта па рацыі было немагчыма. Таму ў жніўні 1943 г. на Вялікую зямлю самалётам пераправілі каля сотні "рапартаў", звязку папер звыш 1.500 старонак з каштоўнай інфармацыяй. Выканаўцы атрымалі радыёграму з падзякай начальніка ЦШПР.

Пакінуць горад была змушана не толькі Зіна Андрыянава (дарэчы, веданне ёю нямецкай мовы скарыстоўвалася і ў партызанах — яна працавала перакладчыцай у штабе злучэння Барысаўска-Бягомльскай зоны). У красавіку 1943 г. у атрад імя Будзённага брыгады "Бальшавік" перайшоў Д.Бязмен, дзе ў хуткім часе стаў палітруком роты, вызначыўся ў баях супраць гарнізонаў, на мініраванні дарог. Туды ж у маі 1943 г. прыйшлося падацца з сям"ёй і У.Карповічу.

Да апошняга трымаліся ў Мінску Караньковы і Штрубэ. І ўсё ж правалу пазбегнуць не ўдалося. У канцы кастрычніка 1943 г. фашысты схапілі партызанскую сувязную, у якой знаходзілася пісьмо Г.Штрубэ ў Лагойскі падпольны райком КП(б)Б. Штрубэ прасіў аб сустрэчы з сакратаром райкома, аб дазволе перайсці ў атрад...

Зіне Караньковай нейкім цудам удалося пазбегнуць арышту, выратаваць маці і малодшага брата. Увечары 28 кастрычніка 1943 г. яна вывела іх з дому, а ноччу ў кватэру ўварваліся гітлераўцы. Уцекачам пашанцавала — сувязныя вывезлі іх у лес. Аднак старэйшы з братоў Караньковых — Сяргей разам з сям"ёй быў схоплены. Пасля допытаў і катаванняў у сакавіку 1944 г. яго выслалі ў Нармандыю (Францыя), у канцлагер. Жонка загінула ў Трасцянцы. У снежні 1943 г. быў пакараны смерцю і Ганс Штрубэ. Яго памочніца і сябар Зіна Андрыянава таксама не дажыла да Перамогі — загінула на Паліку падчас блакады.

З арыштаваных лёс пашкадаваў толькі Каранькова Сяргея. Спрабаваў уцячы з лагера, схапілі зноў і з прабітай галавой зноў кінулі за калючы дрот. Калі ў чэрвені 1944 г. у Нармандыі высадзіўся дэсант саюзнікаў, немцы пагналі вязняў на ўсход. З калоны з групай таварышаў уцёк, каля двух месяцаў хаваўся ў спагадлівых французаў, дачакаўся амерыканскіх войск. Потым было вяртанне дамоў, на роднае папялішча.

*Уладзімір КУЗЬМЕНКА, кандыдат гістарычных навук.*

# КНІГІ-ЖАБРАЧКІ

*Роздум пасля наведвання адной выставы*

У Міністэрстве культуры і друку Рэспублікі Беларусь стала традыцыяй кожны месяц арганізоўваць выставу "Беларуская кніга-94". Экспазіцыю апошняй з іх склалі 270 кніг і брашур, 57 з якіх выпусцілі дзяржаўныя выдавецтвы. А як яны даходзяць да чытача, ці задавальняюць яго запатрабаванні? Каб пачуць канкрэтныя адказы на гэтыя пытанні, я наведаў кнігарню горада Заслаўе. Чаму выбраў менавіта гэтае паселішча? А таму, што там заўсёды быў багаты выбар літаратуры на роднай мове. З Заслаўя прывозіў неабходныя кнігі для дачок-школьніц, а потым і для студэнтак, настаўніц. А што на гэты раз убачыў на паліцах, дзе раней, паўтаруся, быў вялікі выбар? І цяпер выбар, але не таго, чаго шукае сапраўдны аматар мастацкага слова. Тут прадаюць халаты, парасоны, начныя жаночыя кашулі, світэры, адэкалон, зубную пасту, гаспадарчыя сумкі і многае іншае. З беларускіх кніг мне прапанавалі толькі чатыры: зборнік маладой пісьменніцы Галіны Багданавай "Дом іхняй мары", раман Таісы Бондар "Ахвяры", кнігу апавяданняў Янкі Галубовіча "Пастарайся стаць чалавекам" і зборнік Міхася Даніленкі "Дзве зоркі". Прызнаюся, паважаю кожнага з гэтых майстроў мастацкага слова, люблю правесці гадзіну-другую над старонкамі іх выданняў. Але хочацца спытаць: калі ж у Заслаўе ці ў іншыя гарадскія пасёлкі паступяць кнігі пісьменнікаў, чые творы ўключаны ў школьныя праграмы? Кажуць, што няма паперы на іх выданне. Тады сустрэчнае пытанне: адкуль жа яна бярэцца для розных камерцыйных выдавецтваў, якія ў літаральным сэнсе "завалілі" заслаўскую кнігарню нізкапробнай літаратурай (дарэчы, выпускаецца яна ў цудоўным пераплёце)? Кнігі беларускіх аўтараў на фоне камерцыйных жабрачкамі выглядаюць, што адмоўна ўздзейнічае на іх рэалізацыю.

Звярнуся яшчэ раз да лічбаў, якія пачуў на адкрыцці экспазіцыі: з 270 кніг і брашур толькі 57 выпушчаны дзяржаўнымі выдавецтвамі. Вельмі яскрава мне ўяўляецца той недалёкі дзень, калі, прыйшоўшы на такую выставу, пачую ад ганарлівага чыноўніка: "Сярод духоўнага багацця, з якім рады вас пазнаёміць, ёсць адна кніга на беларускай мове..." Паверце, даражэнькія, да гэтага мы ўжо наблізіліся амаль упрытык.

З нацяжкай магу пагадзіцца з тым, што мае права на жыццё камерцыйны турызм, хаця ніяк не ўцямлю спалучэнне гэтых вельмі розных па свайму значэнню слоў. Пакуль у групах камерцыйнага турызму не сустракаў яшчэ чалавека, які б вызначаўся высокім інтэлектам. І, напэўна, не сустрэну, бо камерцыя і турызм у адной асобе існаваць не могуць. Гэта толькі прыкрыццё. І робіцца яно для таго, каб усё лепшае вывезці за мяжу. Ды бог з ім, з гэтым камерцыйным турызмам. Вернемся да разважанняў пра кнігавыданне ў нашай рэспубліцы.

У тым жа Заслаўі назіраў такую карціну. У кнігарню зайшла жанчына гадоў 30, уважліва агледзеўшы сцяну, на якой выстаўлена літаратура камерцыйных выдавецтваў, загадала прадаўшчыцы Іне Ібрагімаўне Тамашэўскай падаць па два экземпляры кожнай кнігі. Пасля, укладваючы купленае ў сумку на калёсіках, прыгаворвала сама сабе: "Я ж у Смаленску за іх азалачуся". Не кажу пра назвы тых кніг, бо ад многіх з іх душа ледзянее, рука цягнецца да пілюлі. А пра змест такіх выданняў і гаварыць няма чаго. Раней пра нецікавае выданне казалі: "Гляджу ў кнігу, а бачу фігу". А што сённяшні чытач бачыць у камерцыйных выданнях, — розуму непадуладна. Такая літаратура разбэшчвае людзей, асабліва падлеткаў, робіць іх жорсткімі, нахабнымі.

Днём з агнём у кнігарнях не сустрэнеш кніг, у якіх абагульняўся б вопыт узаемадзеяння школы, сям'і, грамадскасці ў выхаванні падрастаючага пакалення. Ды ці пералічыш усе тэмы, якія дапамагалі б фарміраваць маральнасць, сумленнасць, міласэрнасць. Для настаўнікаў, бацькоў такія выданні былі вялікай падмогай.

*Уладзімір КОБРЫН.*

## Обо всем и отовсюду

ЗА СВОЮ новейшую историю Швейцарская конфедерация знала три нашествия. В 70-х, после нефтяного кризиса, сюда хлынули чудовищно разбогатевшие арабы, в 80-х, после экономического чудо-рывка, — японцы, и в 90-х, после ряда решений партии и правительства, — русские. До того, как известно, русские капиталы уже были вложены в недвижимость в Штатах, на юге Франции, в Лондоне и, естественно, на братском Кипре. Атаковать самую преуспевающую страну в мире — это вам не фунт изюма. Но ведь русские не лаптем щи хлебают у Пронькиных на именинах. Теперь они кушают нежнейший эскарго и поглядывают, как там волнение на Женевском озере — не шибко сильное?..

В районе прекрасного курортного городка Монтрё дело дошло до того, что местные, швейцарские, агентства по продаже недвижимости не выдерживают конкуренции с международными, у которых бюро в Москве и которые возят сюда на осмотр российских клиентов группами. На российском рынке известны два основных агентства — «Сюисс Риэл Истейт» и «Ревак». Представитель фирмы, сотрудничающей с «СРИ» как раз в районе Монтрё, свидетельствует, что в июне—июле было совершено полтора десятка сделок в области недвижимости.

По адресу Эспас, 114, располагается здание, дышащее светом и пространством, с вестибюлем из розового мрамора. В нем сорок квартир, и те, что на четвертом этаже, как бы нависают над озером. В общем — красота. Здесь чуть ли не полдома отдано под представительства русских фирм. Агентство, торгующее квартирами, находится тут же. Его работники перевидали немало русских, купивших квартиры или интересовавшихся недвижимостью. Где-то здесь, неподалеку, как утверждают, расположился и Михаил Сергеевич Горбачев. И ничего в этом нет неприличного, поскольку, положа руку на сердце, если бы у авторов настоящего полотна были бы такие же гонорары, как у М. С., то они, идя наперекор природной скромности, тоже купили бы себе по даче в Монтрё и перебрасывались бы по вечерам в лаун-теннис.


Михаил Сергеевич и Раиса Максимовна кормят белочку с рук. Пока—в России.

# Просто ли купить шесть соток на берегу Женевского озера?

*Даже Михаил Горбачев, похоже, обзавелся недвижимостью в стране швейцарских гномов*

По наблюдениям швейцарских специалистов, русские особо ценят швейцарскую недвижимость и, приобретая ее, полагают, что это самое надежное вложение. Что правда. Но удивлению их нет предела, когда, оказавшись на месте, они видят, что происходит все совсем не так, как в кино, и им приходится преодолевать трудности. Дело в том, что 16 декабря 1983 года был принят федеральный «Закон Фридриха». Иностранные граждане не имеют права приобретать недвижимость в неограниченных количествах. Во-первых, они должны довольствоваться только туристскими местами. Это, видимо, нужно швейцарцам для того, чтобы жилплощадь проходила как дача, не основное место жительства. В Женеве, например, иностранец купить квартиру не может. Вальтер Люти из агентства «Прожерса» вспоминает, что начал в конце 93-го года первые переговоры с русскими покупателями, а их бумаги ходили до лета следующего года. В результате многие денежные клиенты начинали искать, где полегче, и в конечном итоге перебираются куда-нибудь во Францию.

Во-вторых, общая площадь этой дачи не должна превышать ста квадратных метров, и если уж иностранец приобрел основное место жительства, то не более 200 метров,— это называется разрешение типа «А». Но что такое сто метров? Для того, чтобы приобрести больше, иностранцу нужно разрешение типа «Б». А его получить очень сложно.

Вот совсем недавний случай. Хоккеист Анатолий Фирсов имеет в Швейцарии фирму, занимающуюся экспортом-импортом. Через нее он купил себе квартиру в кантоне Вале, но появилась идея создать тренировочный центр, где могли бы, кстати, тренироваться и наши соотечественники. И совсем была уже наша победа, и «Отель д'Анниввьер» в Висуа уже принадлежал Фирсову, и купчая была подписана. Но 25 июля из швейцарской столицы пришла бумага, где ему отказали в разрешении «Б» на том основании, что Анатолий из России, которая «не принадлежит к числу стран, выходцам из которых традиционно предоставляется такое право».

Русские, как рассказывают швейцарские торговцы недвижимостью, приезжают обычно небольшими группами и интересуются либо виллами, либо участками под застройку. Они готовы сразу же выложить около полумиллиона долларов, т. е. 30—40 процентов стоимости. Затем купленный дом тут же закладывается, под него берется кредит и доплачивается остальное. Обычно банки дают от 40 до 60 процентов стоимости дома. Потом банк, как правило, начинает долгую процедуру проверок источника капиталов. Так что тут новоселам опять приходится ждать.

Дальше — очередное расстройство. Практически всякий раз русский клиент просит, чтобы его фамилия фигурировала во всякого рода документах как можно реже. После совершения покупки фамилию тут же публикуют в официальном бюллетене кантона в рубрике «Регистр недвижимости». «Куда проще продать дом, например, англичанину, — говорит представитель «СРИ» Сэм Краэнбюль. — На русского требуется в три раза больше бумаг. Это новый рынок, новое явление, поэтому все его боятся. Когда к нам обращались те же арабы, японцы и даже колумбийцы, таких проверок и перепроверок не устраивалось. Перед вами сидит клиент, готовый выложить 10 миллионов долларов за дом, и вы вынуждены просить его подождать месяца четыре, пока бумаги будут ходить по инстанциям. Где такое видано? Конечно, когда вокруг столько пишут про русскую мафию, люди склонны к обобщениям. Но смею уверить: из 100 русских клиентов 95 безупречны».

Все это, конечно, так. Но тем не менее русские живут и в Женеве, и в Цюрихе, и во всех крупных швейцарских городах. Поднаторевший в борьбе с отечественной бюрократией, народ всячески приспосабливается к уловкам местной. Покупаются, например, швейцарские фирмы, и уже через них совершенно официально — квартиры в городах. Но квартира, кстати, всего лишь полдела. Надо еще купить эту самую фирму и открыть счет в банке. И на самом деле это не так просто, как кажется из заснеженного далека.

ОДИН москвич, даже приобретя в Женеве фирму, не получил разрешения на работу в Швейцарии и вынужден был отправиться домой и руководить своим предприятием по факсу, что совсем неудобно. Федеральные швейцарские службы относят нас к «третьей группе» иностранных работников, и мы в швейцарской бюрократической иерархии пользуемся теми же правами, что и выходцы из Азии, Африки или с Кипра, хотя финансовые возможности порой несравнимы.

А вот на кантональном, то есть местном, уровне власти более приветливы. Известны случаи, когда наши соотечественники предлагали мэру коммуны всякого рода вложения в подведомственную ему территорию в обмен на разрешение «Б» или на вид на жительство. И мэр ничего не видит в этом зазорного, поскольку, если человек вкладывает средства в строительство дороги или ремонт водопровода, или создает рабочие места, то почему бы не отплатить ему за это добром?

В августе прошлого года в Шатель-Сен-Дени, пригород Фрибура, пораженного безработицей, прибыл председатель российской холдинговой компании «Мультичипс» Петр Гладков и предложил полностью изменить социальный и промышленный пейзаж застоявшейся провинции. После этого даже начались переговоры с высоким российским начальством. Двадцать наших предприятий ВПК намеревались при помощи Гладкова поставить сюда точные технологии и наладить производство. В интервью в номере «Нуво котидьен» за 21 сентября Гладков объявил, что готов инвестировать 20 миллионов долларов и с октября пойдет продукция. Это создаст аж 400 рабочих мест, что для Швейцарии значительно. Но с тех пор ничего не сдвинулось с места. Однако с каким энтузиазмом была воспринята сама идея!

В банке «СЦС Альянс» работает Жан-Мари Вери, который занимается русскими клиентами, вложившими миллиард швейцарских франков в вышеупомянутый банк. Многих клиентов он называет друзьями. За три года, говорит он, только благодаря русским мы создали пять рабочих мест. Зачем создавать препятствия на пути русских капиталов?

Кстати, о банках. Для многих наших соотечественников прибыть в Женеву с мешками денег считается вполне нормальным явлением. Один наш бизнесмен так и приехал — с чемоданом, в котором находилось 800 тысяч долларов. Он обошел шесть банков с просьбой открыть счет и получил, к своему удивлению, шесть вежливых отказов. Для большинства русских «швейцарский банк» — символ серьезности, компетентности и стабильности, но после того, как несколько раз им служащие-финансисты задавали «лишние» вопросы, пыл поостыл. Теперь русским есть с чем сравнивать: Цюрих, Женева, Лондон, Люксембург, Вена... И нередко они выбирают австрийскую столицу, а если уж решают оставаться в Швейцарии, то знают: для счета предприятия лучше выбрать «Юнайтед оверсиз» или швейцарское отделение «Париба». А для помещения личных денег — банки поменьше, поскольку в них и вопросов задают меньше. Крупные швейцарские банки, похоже, делают все, чтобы только не связываться с нашими. «Союз швейцарских банков» разрешил открывать счета русским только в 13 своих филиалах. При этом будущий обладатель счета должен выполнить массу формальностей.

Пик «русской волны» пришелся в Швейцарии на июль нынешнего года. С января по 31 июня сюда эмигрировали 453 гражданина бывшего СССР, из них 351 — русский. В июле их насчитывалось уже 1326. Это только те, кто устроился легально и официально. Количество «нелегалов» как минимум в десять раз больше. За три последних года, как считают специалисты Международного валютного фонда, в сейфах швейцарских банков осело 60 миллиардов долларов, чуть ли не столько же, сколько составляет внешний долг России.

КТО ТАКОЙ новый русский в Швейцарии? Как правило, ему не больше 35 лет, у него техническое образование или диплом Института иностранных языков, или экономического вуза, в том числе и международных школ. Многие стоят во главе фирм-посредников, чаще всего занимающихся импортом природных ресурсов или полуфабрикатов. Селятся, как правило, в самых дорогих гостиницах. Директор женевского «Хилтона» Эрик Кюне уверяет, что за два последних года количество русских постояльцев возросло с абсолютного нуля до нескольких сот в месяц. В 1994 году две трети всех русских, посетивших Швейцарию, находили приют именно в гостиницах высочайшего класса.

Одеты они, как и полагается богатым людям. Часто говорят только по-русски, от силы знают несколько элементарных слов на английском. Это подвигнуло, например, хозяина ювелирного магазина «Гюблэн» отправить своего служащего Лорана Перрего на интенсивные курсы русского языка, поскольку ювелир считает, что русские в ближайшие годы станут его основной клиентурой. В женевском магазине «Шанель» прямо так и заявляют: «Русские за последние два года стали нашими настоящими и постоянными клиентами, и сейчас 5 процентов нашего оборота делается за счет них».

«Русские не слишком разговорчивы и не очень улыбчивы, — говорит служащий часового магазина шикарнейшей фирмы «Патек Филипп», — но они исключительные клиенты. Они сразу же определяют, чего хотят, и никогда не ставят под сомнение цену». Вообще в гостиницах или магазинах расплата идет, как правило, наличными, даже если приобретаются те же часы «Патек Филипп» за 40 тысяч долларов. Причем часто предлагают именно доллары, хотя в стране ходит другая валюта. Директор «Хилтона» отмечает, что русские клиенты спрашивают товары высшей категории: они нередко заказывают лучшие вина, разбираясь по крайней мере в их названиях, или, например, шампанское «Крюг», которое редко заказывают даже местные клиенты.

В магазинах они тоже предпочитают уникальные вещи. «Шанель», «Картье», «Патек Филипп» сходятся в том, что русские спрашивают самые известные модели. Они любят массивное золото, бриллианты, но способны оценить и, например, точную механику часов. В этом, считает отныне русскоязычный служащий «Патека», их отличие от клиентов с Ближнего Востока. Русские скорее выберут вещь, которая, может, и не бросается в глаза, но название которой известно на весь мир.

**Максим ЧИКИН.**
*"Комсомольская правда"*

## Адным абзацам

Сто гадоў споўнілася сёлета метэастанцыі, размешчанай у Пухавіцкім раёне. Назіранні за хуткасцю і напрамкамі ветру, тэмпературай і ападкамі пачалі праводзіцца тут яшчэ ў 1894 годзе пры Мар"інагорскай сельскагаспадарчай школе і з"явіліся асновай усіх кліматычных даведачных матэрыялаў дарэвалюцыйнай Расіі.

x x x

У Стаўбцоўскім лясгасе ў два разы ў параўнанні з мінулым годам пабольшала індывідуальных заказчыкаў на будаўнічыя матэрыялы. У той жа час за такі перыяд удвая менш паступіла заказаў ад прадпрыемстваў і гаспадарак.

x x x

У Лагойску адкрылася новая камерцыйная крама "Сатурн". У ёй у шырокім асартыменце прадстаўлены прамысловыя тавары. Па даволі нізкай цане тут можна набыць посуд фарфоравых заводаў рэспублікі, вязаныя і швейныя вырабы.

x x x

Парадоксаў у нашым жыцці хоць адбаўляй. Вось адзін з іх. Калгасу "Шыпяны" Смалявіцкага раёна, як паведаміла мясцовая райгазета "Ленінскі заклік", за здадзеную на крухмальны завод бульбу грошай не знайшлі. Узамен прыгналі тры "КрАЗы" гарэлкі — "Рускай" і "Маскоўскай" на агульную суму 50 мільёнаў рублёў. Скажам, калгасніку патрэбен аванс — адлічваюць на адпаведную суму гарэлкі.

## Паслугі сувязі

# МАРКА НА КАНВЕРЦЕ

Разбіраючы рэдакцыйную пошту, усё больш і больш пераконваешся ў тым, што нашы карэспандэнты не ведаюць тарыфаў на паслугі сувязі, наклейваюць на канверт маркі самай рознай вартасці.

Вось некалькі прыкладаў. Раіса Хвір часта дасылае інфармацыі з Нясвіжа. Апошні раз яна "аздобіла" канверт маркамі на 90 рублёў, тады як хапіла б пятнаццаці. Яшчэ больш шчодрым у адносінах да сувязістаў аказаўся Г.Хоцын з Лагойска. На звычайнае пісьмо ён наклеіў сем марак на суму 120 рублёў.

Не ведаюць тарыфаў і ў некаторых арганізацыях. На пісьме, якое атрымала рэдакцыя з абласнога прадпрыемства "Белсаюздрук", красуюцца чатыры пяцідзесяцірублёвыя маркі, тады як для арганізацый гэты від паслуг устаноўлены ў 30 рублёў. Пяць марак на 75 рублёў наклеена на пісьме з Бярэзінскага райспажыўсаюза. І такіх прыкладаў шмат.

Яшчэ раз напамінаем, што пісьмо ад грамадзян вагой да 20 грамаў "суправаджаецца" 15-рублёвай маркай, а ад арганізацый — толькі ў два разы даражэйшай.

*Павел ЖУРБА.*

# АЎТАТРАНСПАРТ: 10 ТЫСЯЧ ПРЫВАТНІКАЎ

У Міністэрстве транспарту і камунікацый створана ўпраўленне эканамічных рэформ і антыманапольнай палітыкі. Асноўны сэнс яго дзейнасці сёння — арганізацыя працэсаў прыватызацыі ў галіне. Паколькі Законам аб прыватызацыі гэты від рэформ не прадугледжаны на чыгунцы і ў авіяцыі, новаўвядзенні ахопліваюць у асноўным аўтатранспарт. Ужо прыватызавана 17 прадпрыемстваў рознага прызначэння, што складае каля 20 працэнтаў асноўных фондаў галіны, якія падлягаюць эканамічнаму пераўтварэнню. Выдадзена больш як дзевяць тысяч ліцэнзій прыватным прадпрымальнікам на выкананне розных транспартна-экспедыцыйных работ.

*БЕЛІНФАРМ.*

## В партиях и движениях

# СЛОВО К НАРОДУ

"Сколько раз избиратели отвернутся от коммунистов, столько раз будут обмануты", — такой эпиграф помещен над Обращением к народу Беларуси, с которым выступило Бюро ЦК ПКБ. В нем дается характеристика современной политической, экономической и социальной обстановки в республике, процесса рыночных реформ, затеянных западным капиталом и "лакеями в лице доморощенных банкиров, коммерсантов, спекулянтов и мафии".

По их вине население планомерно превращается в массу униженных и обездоленных. 5 миллионов граждан уже очутились за чертой бедности, преступление совершается и над душами людей, над наукой, культурой. Яркие наклейки из слов "независимость" и "возрождение" прикрывают истинную цель — превратить республику в жизненное пространство западных государств.

Государственная политика, говорится далее в этом обращении, день ото дня смыкается с идеями тех сил, ярким образцом которых является БНФ. Вся "молодая команда профессионалов" под неусыпным надзором Международного валютного фонда трудится над углублением разорительных реформ.

Происходит то, о чем коммунисты предупреждали народ, когда вводилось президентство, но "нам не поверили, тогда, на выборах, за нами люди не пошли", подчеркивается в этом документе. Далее Бюро ЦК ПКБ предельно откровенно обращается к народу с тем, чтобы вновь не обманули избирателей и не пошли за буржуазными национал-реформаторами, так как опасность возникновения националистического режима очень велика.

"Только восстановление социализма, справедливых и нравственных основ общества гарантирует трудящимся достаток и стабильность, а республике — истинное развитие. Другого пути у белорусского народа к нормальной жизни просто нет", — так заканчивается это обращение.

*/НАШ КОРР./*

■ З аналаў гісторыі

# Слуцкае паўстанне: арганізатары і ўдзельнікі

**(Заканчэнне. Пачатак у №136.)**

Пасля таго як палякі пакінулі Слуцк, Рада прыняла рашэнне эвакуіравацца ў Семежава — з-за поўнай непадрыхтаванасці горада да абароны. Тым часам ішоў запіс добраахвотнікаў у баявыя атрады. Была складзена "дыпламатычная нота" савецкаму ўраду і ўручана яго прадстаўніку пры 10-й польскай дывізіі для перадачы па прызначэнню. Ноту падпісалі Пракулевіч, Жаўрыд, Русак, Сасноўскі, Радзюк — члены Рады. У ёй выказваўся пратэст супраць захопу Слуцка часцямі Чырвонай Арміі. Рабілася спасылка на тое, што гэта супярэчыць умовам Рыжскага мірнага дагавора. Адначасова Рада звярталася да дэмакратаў усяго свету з пратэстам супраць падзелу незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

На той момант у Семежава ўжо было эвакуіравана каля 15 тысяч чалавек. З 24 лістапада пачалося фарміраванне добраахвотных воінскіх падраздзяленняў 1-й Слуцкай брыгады. Усяго набралася звыш паўтары тысячы чалавек. Запіс у армію з-за няхваткі зброі прыйшлося прыпыніць. Але ўдалося ўсё ж сфарміраваць два палкі: Слуцкі і Грозаўскі, агульнай колькасцю каля трох тысяч чалавек. Камандзірам 1-га Слуцкага палка быў прызначаны капітан генеральнага штаба рускай арміі П.Чайка (ураджэнец Случчыны), 27-га Грозаўскага — капітан Семянюк. Ён у свой час камандаваў беларускім партызанскім атрадам у Мінску. Брыгаду Рады Случчыны ўзначаліў капітан Анціповіч.

***— Уладзімір Васільевіч, што можна сказаць наконт ходу паўстання? Якая роля належала ў ім Слуцкай Радзе?***

Сутычкі і баі паміж паўстанцамі і рэгулярнымі часцямі Чырвонай Арміі працягваліся амаль месяц. А дакладней, з 26 лістапада па 21 снежня. Найбольш значныя баі завязаліся 2—3 снежня за мястэчка Вызна. 7 снежня — за Семежава. Чырвонаармейцам удалося захапіць гэты населены пункт, але праз пяць дзён ён перайшоў у рукі паўстанцаў. Рашаючая бітва за Семежава адбылася 19 снежня. Сілы былі няроўныя, і паўстанцы пакінулі Семежава.

Што датычыцца Рады, то пасля таго як яна выехала са Слуцка, ніякіх пасяджэнняў не праводзілася. Была, праўда, падрыхтавана дэкларацыя ў памяркоўным тоне. Рада выпусціла некалькі зваротаў-лістовак да грамадзян, чырвонаармейцаў, сялян. Размножылі "Пагоню" М.Багдановіча і "Адвеку мы спалі" з нотамі.

Пасля таго як рэгулярныя часці выцеснілі паўстанцаў з Семежава, Стаўка і Рада пераехалі ў Падчыцы, у нейтральную зону. Ад яе было ўсяго два кіламетры да савецкай граніцы. Насельніцтва сустрэла паўстанцаў насцярожана. Узніклі праблемы з правіянтам.

Энергічныя дзеянні чырвонаармейскіх часцей выцеснілі случакоў да ракі Морач. Стаўка і Рада аказаліся ў вёсцы Заастравечча. Стала ясна, што бітва прайграна. 28 снежня было прынята рашэнне аб ліквідацыі паўстанцкай арміі і аб пераходзе цераз раку Лань у раёне размяшчэння 41-га польскага палка. Граніцу перасекла звыш 1.500 чалавек. Рада Случчыны была распушчана. Слуцкую брыгаду раззброілі непадалёк ад мястэчка Сіняўка. Паўстанцаў інтэрніравалі. Да іх прыязджаў сам Булак-Балаховіч і агітаваў запісвацца ў свае атрады. Потым брыгаду перавялі ў Беласток, а крыху пазней — у дарагускія лагеры. Вызвалілі паўстанцаў толькі ў маі 1921 года,пасля канчатковага падпісання савецка-польскага пагаднення.

***— Чаму слуцкія паўстанцы пацярпелі паражэнне?***

— Першая і, відаць, асноўная прычына — іх не падтрымалі шырокія народныя масы. Вось што наконт гэтага пісаў у сваіх успамінах адзін з ініцыятараў паўстання Антон Сокал-Кутылоўскі: "Не атрымаўшы падтрымкі з боку насельніцтва, мы аказаліся амаль ізаляванымі, і нам трэба было або змагацца з Чырвонай Арміяй, або спыніць барацьбу..." За самавызначэнне галоўным чынам агітавала нацыянальная інтэлігенцыя, якая не з'яўлялася істотным слоем у грамадстве. Што датычыць непасрэдна сялянства, то яно, не прымаючы бальшавіцкую палітыку харчразвёрсткі, на той момант жыло больш матэрыяльнымі клопатамі, чым нацыянальнымі пытаннямі. Таму асноўную масу паўстанцаў складалі дэзерціры розных армій: дзянікінскай, чырвонай, белай, балахоўскай. Гэта ў асноўным былі салдаты з рускіх губерняў, Украіны. Іх не цікавілі беларускія нацыянальныя праблемы, ды яны і не ведалі іх. Ім хацелася, каб хутчэй скончылася вайна і можна было вярнуцца дамоў.

Акрамя таго, былі сур'ёзныя рознагалоссі паміж членамі Рады і кіраўнікамі паўстання. У цэлым жа напрошваецца адзін вывад: Слуцкае паўстанне мела няшмат шанцаў на поспех.

***— Незразумелыя у такім разе адносіны ўрада БНР да паўстання. Ён фактычна аказаўся ўбаку. Чаму?***

— У пэўным сэнсе гэта так. Хаця Беларуская ваенная камісія, якая знаходзілася ў Лодзі, камандзіравала 20 сваіх афіцэраў на фронт у Семежава. Але, даехаўшы да Баранавічаў, дзе на той момант знаходзілася камендатура Слуцкай брыгады, і даведаўшыся там пра рэальную абстаноўку пад Семежава, вярнуліся назад. Толькі тры з іх згадзіліся ўдзельнічаць у ваенных аперацыях. А ў цэлым ні Найвышэйшая Рада на чале з Луцкевічам, ні Беларуская Рада, ні ўрад БНР не аказалі ніякай рэальнай дапамогі паўстанцам. На маю думку, яны добра разумелі, што змагацца з рэгулярнымі часцямі Чырвонай Арміі няма сэнсу, бо сілы далёка не роўныя.

***— Некаторыя даследчыкі Слуцкага паўстання схільныя лічыць, што яно ў многім было інспірыравана польскім бокам. Наколькі правільнае такое сцвярджэнне?***

— У інструкцыі польскага міністэрства замежных спраў дыпламатычным прадстаўнікам за мяжой гаварылася наступнае: "Нягледзячы на тое, што падпісаны прэлімінарныя ўмовы міру, мы не маем ніякіх падстаў спадзявацца на добрую волю праціўніка; яго ўступчывасць мы ўспрымаем як вынік нашых перамог і сведчанне яго ўнутранай слабасці. Таму нам неабходна і надалей падтрымліваць элементы, варожыя Савецкай Расіі, як рускія, так і ўкраінскія, беларускія, каўказскія, імкнучыся да ўстанаўлення любых кантактаў, супраць пагражаючай нам адтуль небяспекі".

Па волі лёсу Случчына аказалася на сумежжы інтарэсаў Расіі і Польшчы. Для апошняй гэта быў своеасаблівы "буфер", "жытніца Міншчыны". І проста так здаць яе яны не маглі. Таму, скарыстоўваючы імкненне беларускай інтэлігенцыі да нацыянальнага самавызначэння, было зроблена ўсё магчымае, каб справакаваць тут узброенае выступленне. Польскія агенты вялі шырокую агітацыю за далучэнне Случчыны да Польшчы. Сваіх людзей яны мелі ў Радзе і штабе Слуцкай брыгады. У контрразведцы паўстанцкай арміі знаходзіліся агенты дэфензівы. А Беларуская вайсковая камісія фактычна з'яўлялася часткай польскіх войск і была арганізавана спецыяльна для барацьбы з Саветамі. Ваенную навуку паўстанцы праходзілі ў школе падхарунжых ў Польшчы. Пры такім "раскладзе сіл" няцяжка было кантраляваць ход паўстання і ўплываць на яго.

Аб тым, што польскі бок быў зацікаўлены ў выступленні супраць Саветаў, сведчыць і такі факт: зброяй паўстанцаў часткова забяспечылі адыходзячыя са Слуцка польскія воінскія часці.

Падтрымаўшы паўстанне на пачатковым этапе (што пэўным чынам супярэчыла ўмовам Рыжскага мірнага дагавора), Польшча потым адмовілася ад яго. І перастала дапамагаць зброяй, прадуктамі харчавання. Хаця пазней, калі паўстанне было ліквідавана, яго ўдзельнікам прадастаўлялася права свабоднага выбару месца жыхарства ў Польшчы.

***— У палітыцы, як кажуць, няма пастаянных сяброў, ёсць пастаянныя інтарэсы. Таму, падводзячы рысу пад нашай гутаркай, хацелася б пачуць нейкую канкрэтную ацэнку тых падзей. Слуцкае паўстанне — гэта адзін з эпізодаў грамадзянскай вайны на тэрыторыі Беларусі ці нешта значна большае?***

— Наконт Слуцкага паўстання сёння выказваецца многа розных поглядаў, меркаванняў. Часам рэзка супярэчлівых. У гэтым няма нічога асаблівага. Кожная гістарычная падзея патрабуе ўсебаковага разгляду, вывучэння. І тагачасныя падзеі ў Слуцкім павеце далёка не выключэнне. Што датычыцца мяне як гісторыка, вучонага, проста чалавека, то я скажу наступнае. Пры ўсёй яго супярэчлівасці, напластаваннях, драматычнасці, інспірацыі з польскага боку Слуцкае паўстанне — не проста адметная падзея ў гісторыі нашага народа, а "ключ", які дае магчымасць прасачыць фарміраванне нашай нацыянальнай свядомасці, імкненне да самавызначэння ў складаных знешнепалітычных умовах.

*Гутарыў Мікалай ЖУЧКО.*



## Спажывецкая кааперацыя

*Дружны калектыў працуе ў сферы грамадскага харчавання Чэрвеньскага райспажыўтаварыства. Каб зрабіць больш таннай прадукцыю, кулінары самі нарыхтавалі і заклалі на захоўванне вялікую колькасць ягад, капусты, шчаўя. Разнастаіць меню дапамагаюць вяндлярны цэх і падсобная гаспадарка.*

***НА ЗДЫМКАХ:*** *повар сталовай райсельгастэхнікі* ***Р.П.Акцісава*** */справа/ і тэхнолаг* ***Н.М.Мулярэвіч;*** *загадчыца вытворчасці рэстарана "Волма" г.Чэрвеня* ***Н.М.Маісеева,*** *повар* ***Т.М.Агаркова,*** *майстар-повар* ***Л.А.Трапянюк,*** *афіцыянтка* ***І.А.Альфяровіч*** *за абмеркаваннем меню.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*



■ Спорт

# ЖАКЕІ

***Дзіцяча-юнацкая спартыўная школа па коннаму спорту ў Зазер'і Пухавіцкага раёна вядомая ў рэспубліцы. Яе выхаванцы паказваюць неблагія вынікі на спаборніцтвах. Нягледзячы на тое, што трэнерскі састаў перыядычна мяняецца, ранейшым застаецца кірунак. Не так даўно ў школу вярнуўся дырэктар Леанід Ігнатавіч Юшкевіч — ён жа выканаўчы дырэктар Федэрацыі па коннаму спорту Рэспублікі Беларусь. Магчыма, дзякуючы яго намаганням школа выжыла ў такі складаны перыяд. І стараецца не здаваць пазіцый.***

— Жывём, трымаемся, — коратка адказаў Леанід Ігнатавіч на пытанне, як знаходзіць выйсце з фінансавых праблем.

Справа ў тым, што з бюджэту грошы выдзяляюцца толькі на заработную плату супрацоўнікаў. Клапаціцца аб тым, як пракарміць, утрымаць коней, даводзіцца самой школе. Выхадаў не так многа — здача ў арэнду канюшні і аўтамашыны. Добра, што ў свой час набылі "Вольва" для перавозкі коней. Цяпер аўтамашыну бяруць у арэнду і Федэрацыя коннага спорту, і камерсанты. Бартэр з вытворча-камерцыйнай фірмай "Белая грыва", дзе выпускаецца рабочая амуніцыя для коней, таксама крыху дапамагае.

Але, безумоўна, усё гэта — кропля ў моры. Дарагоўля кармоў — бадай, адна з найважнейшых праблем на сённяшні дзень. Неяк давялося выменяць каня на 30 тон аўса. Здзелка аказалася выгаднай і для школы, і для аднаго з мясцовых калгасаў. Гаспадарка прыдбала каня. А школа запаслася фуражным зернем на 7 месяцаў.

Увогуле ж гаспадарчаразліковая дзейнасць школы бачыцца дырэктару на больш высокім узроўні. Прыбытак можна атрымліваць ад узнаўлення і выхавання, а затым продажу спартыўных коней.

Стварэнне школай сумесна з эксперыментальнай базай "Зазер'е" сваёй каняфермы магло б вырашыць многія праблемы. Праўда, справа гэтая не аднаго года. Прыкладна каля 5 гадоў патрэбна, каб жарабя ператварыць у спартыўнага каня. Аднак карпатлівая, доўгая праца затым акупілася б. Сёння коней купляюць у Расіі і на Украіне прыкладна за 1 тысячу долараў. А ў сваёй рэспубліцы і таго больш — звыш 2 тысяч долараў. У Зазер'і коні ў асноўным купленыя.

А пакуль задумкі з узнаўленнем, выхаваннем спартыўных коней для продажу знаходзяцца толькі ў планах.

Нягледзячы на ўсе складанасці, спартсмены-коннікі з Зазер'я імкнуцца да вышынь у сваім відзе спорту.

У красавіку адбылося адкрытае першынство коннаспартыўнай школы ў Ратамцы, дзе выхаванцы з Зазер'я паказалі добрыя вынікі. Саша Беразоўскі заняў першае месца, Павел Карповіч — другое, Ягор Мароцкі — шостае.

На першынстве рэспублікі сярод юнакоў Уладзіслаў Карповіч (брат Паўла) заняў другое месца па пераадоленні перашкод на прыз адкрыцця. А ў праграме па ўзрастаючай цяжкасці ён быў шостым. У праграме кубка сярод юнакоў Саша Беразоўскі заняў таксама шостае месца і выканаў нарматыў кандыдата ў майстры спорту.

Як адзначыў Л.І.Юшкевіч, хлопцы паказваюць нядрэнныя вынікі. Праўда, яшчэ невялікі вопыт іх выступленняў на спаборніцтвах. Між іншым, з 30 выхаванцаў (у асноўным гэта школьнікі) каля 10 з'яўляюцца майстрамі спорту.

Раней шмат падлеткаў ездзілі з Мінска. Зараз сітуацыя змянілася, і ў асноўным у коннаспартыўнай школе займаюцца мясцовыя дзеці. Што датычыць спартыўных планаў, то наступны год у зазерскіх коннікаў ужо распісаны. У лютым маркуюць правесці ў Зазер'і адкрытае першынство школы. А ў жніўні адбудзецца адкрыты турнір міждзяржаўных спаборніцтваў па коннаму спорту на прыз Героя Савецкага Саюза Л.Даватара, дзе, магчыма, прымуць удзел і спартсмены з краін СНД.

Мара зазерскіх коннікаў — трапіць на больш сур'ёзныя замежныя спаборніцтвы. А для гэтага трэба шмат працаваць, разам з тым вырашаючы і фінансавыя праблемы.

*Аліна ГРЫШКЕВІЧ.*

*г. Мар'іна Горка.*

## ПОСПЕХ ВІДАВОЧНЫ

Зборная Беларусі прыняла ўдзел у чэмпіянаце свету па тайландскаму боксу і сярод трыццаці каманд заняла другое месца, уступіўшы толькі камандзе Тайланда, дзе і праходзілі спаборніцтвы.

У асабовым заліку беларускія спартсмены заваявалі адзін залаты, тры сярэбраныя і два бронзавыя медалі.

## ПАЧНУЦЬ З КВАЛІФІКАЦЫІ

Са штаб-кватэры Еўрапейскай федэрацыі баскетбола атрымана пацвярджэнне аб удзеле беларускіх каманд у кваліфікацыйных турнірах да чэмпіянату Еўропы.

Мужчынская зборная Беларусі з 24 па 28 мая 1995 года ў групавым турніры выступіць у Македоніі. У горадзе Ковантарці яе сапернікамі будуць гаспадары спаборніцтваў, каманды Албаніі, Нідэрландаў, Нарвегіі і Ірландыі. Каб выйсці ў наступны этап розыгрышу, трэба заняць адно з першых трох месц.

Каб трапіць у фінал чэмпіянату Еўропы, нашай жаночай камандзе трэба будзе вытрымаць кваліфікацыйны адбор, які пройдзе ў ізраільскім горадзе Кфар Блюм таксама ў трэцяй дэкадзе мая наступнага года. Яе сапернікамі будуць зборныя Аўстрыі, Грэцыі, Ірландыі, Швейцарыі і Ізраіля.

Маладзёжныя зборныя Беларусі атрымалі правы выступаць адразу ў фінале еўрапейскага першынства.

## ЗА МЕСЦА Ў ПЕРШЫМ КВАРТЭЦЕ

У чэмпіянаце Міжнароднай баскетбольнай прафесійнай Балтыйскай лігі сярод жанчын праходзяць матчы серыі "плэй-оф", пасля чаго восем каманд раздзеляцца на два квартэты, першы з якіх разыграе ўзнагароды.

Мінскаму "Гарызонту", каб увайсці ў першую чацвёрку, трэба выйграць двойчы ў рыжскага клуба ТТТ. Першая сустрэча, якая праходзіла ў сталіцы Латвіі, прынесла поспех беларускім баскетбалісткам — 97:80. Паўторны матч адбудзецца ў Мінску 4 студзеня. Калі яго выйграюць спартсменкі Латвіі, то на наступны дзень адбудзецца трэці, рашаючы паядынак.

## РЫНГ НАЗЫВАЕ МАЦНЕЙШЫХ

Разыграны прызы адкрытага Кубка Беларусі па боксу. Сярод пераможцаў два прадстаўнікі нашай вобласці. Гэта Віктар Цвірко (вага 57 кг) і Сяргей Дычкоў (81 кг), а таксама мінчане Руслан Жураўскі (51 кг) і Дзмітрый Каверын (60 кг). У астатніх вагавых катэгорыях уладальнікамі кубка сталі баксёры з Гродна, Віцебска і Магілёва.

Гумарэска

# ОХ, ГЛЯДЗІ Ў МЯНЕ, ОХ, ГЛЯДЗІ!

НАЧАЛЬНІКУ раённай падатковай інспекцыі Хвядосу Баўтуну вышэйстаячае кіраўніцтва добра-такі ўсыпала перцу за дрэнную работу. І ён, каб захаваць за сабой цёпленькую пасаду з блакітнай "Волгай", вырашыў актывізавацца. На экстранным сходзе сказаў падначаленым:

— Наваспечаным буржуінам і прадпрымальнікам — ніякага паслаблення. Яны, ліха на іх, водзяць нас за нос, утойваюць свае прыбыткі і заробкі. Трэба браць падаткі згодна з інструкцыяй, з усёй строгасцю.

Каб паказаць прыклад прынцыповасці, Хвядос Баўтун адразу ж пасля сходу вырашыў унесці асабісты ўклад у справу ўмацавання бюджэту роднай краіны. Накіраваўся да цёткі Алімпы, якая жыла ў старэнькай хатцы на ўскрайку райцэнтра. "Надомніцу, ліха на яе, трэба скалатнуць, — думаў ён. — Нажываюцца, з раскошы дурэюць".

Гаспадыня, худзенькая жанчынка, была якраз дома, карміла ў сенцах курэй. Убачыўшы незнаёмага чалавека з партфелем, выцерла рукі хвартухом, замітусілася: "Праходзьце ў хату, на дварэ ж холадна". Баўтун узяў, як кажуць, быка за рогі:

— Я — начальнік падатковай інспекцыі. Прашу паказаць ваш патэнт, прыходна-разліковую дакументацыю. Колькі зарабляеце, колькі рублікаў плаціце ў бюджэт.

— Ды што вам сказаць, — разгубілася Алімпа. — Пацент той дзесьці пад бэлькай над печчу ляжыць. А больш ніякіх папер няма. Пенсія мая мізэрная. Вяжу шкарпэткі. Купіла нядаўна паўкіло воўны. Пакуль спрала верацяном, дык пальцы адубелі. Прадала тры пары шкарпэтак. Грошы на камбікорм пусціла, парсючка думаю перад Калядамі закалоць.

— Значыць, дакументаў няма? — голасам чалавека, які знайшоў кавалак золата, сказаў Баўтун. — Так і запішам: улік катастрафічна запушчаны, заробкі ўтойваюцца. Гадуе вепрукоў на продаж.

— Пабойцеся Бога, на які продаж? — усхліпнула Алімпа. — Парасё тое як кацянё. Паглядзіце самі.

Баўтун рашуча шчоўкнуў замком партфеля: "Штрафуем, грамадзянка, на мінімальную месячную зарплату. А там паглядзім, ліха на вас. Развялося спекулянтаў!"

Праз некалькі хвілін блакітная "Волга" спынілася ля офіса малога прадпрыемства "Асінавы кубёлак". Сюды Хвядос ужо аднойчы заходзіў, але сакратарка сказала, што шэф у камандзіроўцы, а галоўны бухгалтар на бюлетэні. Цяпер тая ж сакратарка Зоечка, у залатых пярсцёнках, з высокай, як гара, прычоскай, ветліва запрасіла:

— Альфрэд Альфрэдавіч у сябе. Заходзьце.

Баўтун, як вы заўважылі, быў настроены ваяўніча. Шырока і смела адчыніў дзверы з бліскучай шыльдачкай "А.А.Хватальскі".

— А-а-а, фінансавы бог, — устаў яму насустрач камлюкаваты, з барадою, мужчына. — Рады вас бачыць. Чым магу служыць? Што вас закінула ў нашу сціплую келлю?

Баўтун вырашыў не цырымоніцца. Гэты Альфрэд, ліха на яго, стрэляны верабей. Двойчы ў турме сядзеў за крадзеж. Уцёрся цяпер у прадпрымальнікі. Афішыруе даёнкі, цабэркі, кубёлкі. Сам жа, усе ведаюць, грэе рукі на перапродажы жаночых ботаў, футравых шапак, іншых дарагіх рэчаў. Быў нават замешаны ў аферы з продажам каляровага металу. Міліцыя тады і выйшла на след, але Хватальскі, як вугор, выслізнуў з рук.

— Мне, калі ласка, пакажыце свой дэбет-крэдыт, — сказаў жалезным голасам Баўтун, даючы зразумець, што на гэты раз ён назбірае кампрамату для таго, каб няўлоўны Альфрэд загрымеў на лаву падсудных.

— Зоечка, прынясі пану інспектару той сшытак, на якім у прыёмнай стаіць чайнік, — сказаў у мікрафон Хватальскі.

Сакратарка, цюкаючы абцасікамі па паркетнай падлозе, умомант паклала перад Баўтуном зашмальцаваны кандуіт. Ледзьве праглядваўся надпіс чырвоным алоўкам: "МП"Асінавы кубёлак". Разлікі гаспадарчай дзейнасці".

Баўтун нервова прыкусіў вусны: "Ну і ну. Вось гэта дакуменцікі". На першай старонцы прачытаў, што закуплена ў Налібоцкім лясніцтве два кубікі елкі і чатыры кубікі асіны па цане вышэй за рыначную. Наступны запіс алоўкам зусім збіў з панталыку пана фінансіста: грашовы месячны аклад, значылася тут, самога А.А.Хватальскага — 67 рублёў, плюс 11 рублёў — прэмія.

— Бедненькі, дык як жа вы жывяце, — вырвалася ў Хвядоса. І, адклаўшы ўбок сшытак, ён ужо сталёвым голасам сказаў, бы цвікі заганяў у сцяну: — Пакажыце тыя паперы, якія з банка ідуць. І акты на куплю драўніны, рэалізацыю гэтых самых... як іх там... асінавых кубёлкаў. Мяне цікавіць і колькі перапрадалі ботаў, шапак.

На твары Альфрэда мільганула трывога, але ён тут жа ўзяў сябе ў рукі, непрыкметна націснуў кнопачку на рубе стала.

— Усе іншыя дакументы ў сейфе, пан Баўтун. Ключы, на жаль, у бухгалтара. А яна хварэе, — сказаў, пазяхаючы, Хватальскі.

— Нічога. Прывязём бухгалтара, — не адступаў фінансавы бог.

— Ці варта турбаваць? Яшчэ хвароба можа абвастрыцца, тады ўдвух з вамі будзем адказваць. Я сам дам вычарпальную інфармацыю, якая вас цікавіць, — сказаў Альфрэд і зноў націснуў на кнопку.

Зоечка адчыніла дзверы. Яна несла паднос, на якім стаяла бутэлька каньяку, вазачка з дарагімі цукеркамі і шакаладам. Баўтун, вялікі ахвотнік выпіць за чужы кошт, праглынуў сліну. Падумаў: "Мо другі раз стрыножым гэтага Альфрэда. Прышлю самых заўзятых інспектараў, і тады..."

Недзе апоўначы адчыніліся дзверы МП "Асінавы кубёлак". Хвядос, п'яны, выкаціўся на вуліцу, дзе яго падхапіў шафёр. Ён усё лез і лез цалавацца з Хватальскім, пагрозліва ківаў яму: "Ох, глядзі ў мяне, ох, глядзі".

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

## ХАТНІ ЭКРАН!

### 22 снежня, чацвер

*Беларускае тэлебачанне*

15.50. Вывучаем сваю гісторыю. "Аркадзь Смоліч". Д/ф.
16.10. ТБ — школе. Культура Беларусі ў канцы 20—30-х гадоў XX стагоддзя.
16.45. "Лясныя казкі".
17.00. Навіны.
17.10. Латышы на Беларусі.
17.40. "Парк культуры".
17.45. Мінскія тэлевізійныя інфармацыйныя сеткі: перспектывы развіцця.
18.10. Навіны (Гродна).
18.35. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Эканамічная хваля.
19.55. Урокі беларускай мовы.
20.05. "Крок". Вернісаж маладых мастакоў Гомеля.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.40. Пяць хвілін на жарты.
21.45. "Сямейныя вечары". Д/ф.
22.00. На сесіі ВС Рэспублікі Беларусь.
"Амазонка". 3-я серыя.
"Крок". "Правінцыя, або Навелы нашага жыцця".
Пад купалам Сусвету.
Чэмпіянат Беларусі па валейболу. Мужчыны. "Арбіта" (Мінск) — "Камунальнік" (Гродна).
Дайджэст.

*Канал "Астанкіна"*

15.30. Жар-птушка.
16.00. Камп'ютэр-хол.
16.20. "Элен і рабяты". Тэлесерыял.
16.50. Свет сёння.
17.00. ...Да 16 і старэйшым.
17.30. Чалавек і закон.
17.40, 20.30. Надвор'е.
17.45. "Хто ёсць хто. XX стагоддзе". А.Макаранка.
18.00. Гадзіна пік.
18.30. "Дзікая Роза". Тэлесерыял.
18.55. Праграма Л.Філатава.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. Масква—Крэмль.
21.00. Лато "Мільён".
21.30. "Водар жанчыны" (Італія).
23.45. Спявае Вольга Варанец.
23.50. Прэс-экспрэс.

*Канал "Расія"*

15.50. Там-там навіны.
16.05. Свята кожны дзень.
16.15. Новая лінія.
16.55. Жывём і кахаем.
17.10. Будні.
17.50. У свеце аўта- і мотаспорту.
18.20. Свая гульня.
18.50. Пяць хвілін аб добрым жыцці.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.35. "К-2" прадстаўляе: "Сюжэт".
22.20. Рака часу.
22.25. Аўтаімгненне.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Канцэрт ансамбля народнай музыкі "Неўскі".
23.00. Зоркі гавораць.
23.05. Творчасць шчаслівых сноў.
23.35. "Матч стагоддзя ў "Дружбе".

### 23 снежня, пятніца

*Беларускае тэлебачанне*

8.00. Навіны.
8.10. Дайджэст.
8.20. Пяць хвілін на жарты.
8.25. "Зялёная казка" і іншыя мультфільмы.
9.00. ТБ — школе. Гісторыя. Культура Беларусі ў канцы 20—30-х гадоў XX стагоддзя.
9.35. "Амазонка". 3-я серыя.
10.25. "Каменная кветка". Мультфільм.
10.50. Фільм-канцэрт.
11.00. "А досвіткі тут ціхія". Маст. фільм.
14.05. Тэлефестываль "Песню бярыце з сабою" ў Салігорску.
15.20. Канкур. Кубак Беларускай асацыяцыі конегадоўлі.
16.20. Закон і ты.
17.00. Навіны.
17.10. "Салдаты Лізюковы". Д/ф.
17.30. "Аліса ў Зазяркаллі".
18.10. Навіны (Магілёў).
18.35. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Эканамікст.
19.20. Праграма для сям'і.
20.00. "На шляхах да Мадонны". Д/ф.
20.20. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.40. Студыя "Палітыка". "Крэда".
22.00. Падарункі на добры настрой.
22.15. На сесіі ВС Рэспублікі Беларусь.
Пад купалам Сусвету.
Шоу-праграма.
"Амазонка". 4-я серыя.
"Руская рулетка".
Дайджэст.

*Канал "Астанкіна"*

7.50, 8.50, 9.50, 14.50, 17.50, 20.00, 22.50. Навіны.
8.00. Сарока.
8.20. "Дзікая Роза".
9.00. Агарод круглы год.
9.25. Знешняя палітыка — унутраная справа.
14.00. Улада і рэформы.
14.15. Наш прагноз.
14.25. Хроніка дзелавога жыцця.
14.35. Шоу і бізнес.
15.00. У гасцях у казкі. "Лёгкія крокі".
16.40. Рок-урок.
16.50. Свет сёння.
17.00. Чалавек і закон.
17.30. Гарады Расіі. г.Кіраў.
17.40, 20.30. Надвор'е.
17.45. "Хто ёсць хто. XX стагоддзе". Э.Бурдэль.
18.00. Бамонд.
18.20. "Дзікая Роза". Тэлесерыял.
18.50. Поле цудаў.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. Чалавек тыдня.
21.00. "Забойца паняволі". Маст. фільм.
22.25. Ва ўсіх на вуснах.
23.05. Музагляд.
23.40. Аўта-шоу.
23.50. Прэс-экспрэс.

*Канал "Расія"*

7.30. Час дзелавых людзей.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.25. Паехалі.
8.35. Без рэтушы.
9.30. Тэлегазета.
9.35. "Санта-Барбара".
10.25. Гандлёвы дом.
10.40. Сялянскае пытанне.
11.05, 13.20. Дзелавая Расія.
13.45. "Ваяўніца". Маст. фільм.
15.10. Музычная мазаіка.
15.20. Студыя "Рост". "Кенгуру".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Свята кожны дзень.
16.15. Новая лінія.
16.55. "Чароўныя Каляды".
18.35. "Цімошкава ёлка". Мультфільм.
18.45. Музыка на дэсерт.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.30. Я — лідэр.
21.00. "Ніка-94".
22.20. Рака часу.
22.25. Аўтаімгненне.
22.30. Спартыўная карусель.
23.35. "Ніка-94". Працяг.
0.05. Зоркі гавораць.

### 8-й канал

**22 декабря, четверг**

18.00 Мультсериал "Кругосветное путешествие Вилли Фога".
18.25 Ассоциация Детской Прессы представляет фильм "Гибель динозавров".
18.55 Реклама.
19.00 Телесериал "Морена Клара".
19.50 БАНТ: "Репортаж".
20.00 К сведению.
20.25 Реклама.
20.30 Телесериал "Шансы".
21.20 Студия БМ: "Квадракола".
21.35 Реклама.
21.40 Фантастика на экране... Художественный фильм "Пропасть".

**23 декабря, пятница**

18.00 Мультсериал "Кругосветное путешествие Вилли Фога".
18.35 Секреты природы.
18.55 БАНТ: "Репортаж".
19.05 Реклама.
19.10 Телесериал "Морена Клара".
20.00 Агентство "Пармикс": "Городские часы", "Новости".
20.20 Гости 8 канала: "Я и мой пес".
20.35 Реклама.
20.40 Телесериал "Шансы".
21.30 Студия БМ: "Коллекция".
21.45 Время местное.
22.05 Реклама.
22.10 "Забытое кино?" Художественный фильм "Двенадцатая ночь".
23.35 Реклама.

**Наш адрас:**
220013, гор.Мінск, вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі —68-29-76, намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81, адказнага сакратара —68-26-48, сакратарыята —68-26-48, аддзелаў: Саветаў —68-26-38, адукацыі і культуры —68-25-76, сацыяльна—эканамічнага —68-25-43, грамадска-палітычнага —68-25-42, інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33, пісьмаў і маральна-бытавых праблем — 68-25-83, ілюстрацыі —68-25-03, камерцыйнага — 68-25-86, бухгалтэрыі — 68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў: у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы —(8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88, Салігорску — (8-210) 2-49-60.

ЗАСНАВАЛЬНІК — Мінскі абласны Савет дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета дэпутатаў.

Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА.

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.
Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10.
Нумар падпісаны ў 22.00.

Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе "Мінскай праўды".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.

Індэкс 63923. Зак.№137.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12